# НАША СВАБОДА

№85(172) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

13 ЖНІЎНЯ 2001 года
ПАНЯДЗЕЛАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




# Формула перамогі

## *Уладзімір Ганчарык і Сямён Домаш падпісалі пагадненне, якое падтрымалі палітычныя партыі*

Пагадненне паміж адзіным кандыдатам у прэзідэнты Беларусі і шырокай грамадзянскай кааліцыяй аб узаемных абавязальніцтвах у перыяд і пасля прэзідэнцкай кампаніі было падпісанае 11 жніўня ў Мінску. Дэ-факта, нарэшце, падпісанае пагадненне паміж двума патэнцыйнымі кандыдатамі ў прэзідэнты – Уладзімірам Ганчарыкам і Сямёнам Домашам. Дэмакратычныя кандыдаты прыйшлі да рашэння, што яны абодва ідуць на выбары, але пасля рэгістрацыі Сямён Домаш, як і меркавалася, здымае сваю кандыдатуру на карысць Уладзіміра Ганчарыка, атрымліваючы ўзамен гарантыі, што пасля перамогі на выбарах адзінага кандыдата займае пасаду прэм'ер-міністра Беларусі. Пад дакументам паставілі подпісы Уладзімір Ганчарык, Сямён Домаш і кіраўнікі вядучых палітычных партыяў Беларусі.

«Гэты дзень у фармаце распачатай прэзідэнцкай кампаніі ёсць самым важным. Зліквідаваная пагроза паралельных прэзідэнцкіх кампаніяў. Гэтае пагадненне прыбрала ўсе перашкоды да перамогі дэмакратыі на маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбарах і стала найважнейшым палітычным крокам», – так пракаментаваў падпісанне пагаднення лідэр Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька.

У пагадненні агаворваецца таксама пытанні фармавання ўрада на чале з Сямёнам Домашам, пераразмеркаванне паўнамоцтваў паміж урадам і парламентам, прынцыповае раздзяленне ўладаў і падтрымка палітычных партыяў Беларусі, якую адразу ж атрымлівае адзіны кандыдат у перадвыбарнай гонцы.

Што тычыцца фармавання новага заканадаўчага органа Беларусі, то ў дакуменце ўказана неабходнасць правядзення свабодных і дэмакратычных выбараў у парламент Беларусі. Пра тое, у якія тэрміны павінен быць створаны легітымны беларускі парламент, у пагадненні не гаворыцца.


Фота Ул.ШЛАПАКА

Урачыстае падпісанне пагаднення запланаванае ў 15.00 13 жніўня. А 14 жніўня ў Палацы Рэспублікі будзе завершаная стадыя рэгістрацыі кандыдатаў у прэзідэнты. Ім будуць уручаныя рэгістрацыйныя пасведчанні. Афіцыйная перадвыбарная гонка пачынаецца гэтым жа днём.

**Хартыя'97**

# Фальсіфікацыі не пройдуць

10 жніўня ў Гродне кіраўнік выбарчай кампаніі адзінага кандыдата і старшыня грамадскага руху «За новую Беларусь» Васіль Лявонаў правёў у рэдакцыі газеты «Пагоня» двухгадзінную гарачую тэлефонную лінію.

Адказваючы на пытанні, Васіль Лявонаў заявіў: «Я ўпэўнены, што ў верасні Аляксандр Лукашэнка будзе адхілены ад улады без вайны і крыві, мірным шляхам». Васіль Лявонаў перакананы, што ўлада не здолее сфальсіфікаваць вынікі выбараў. Ён падкрэсліў асабістую адказнасць членаў выбарчых камісіяў за магчымыя фальсіфікацыі: «Кожны, хто дапусціць парушэнні падчас падліку галасоў, будзе сядзець у турме, і гэта будзе злачынства без тэрміну даўніны».

Адзначыў Васіль Лявонаў і вялікую падтрымку на Гродзеншчыне Сямёна Домаша, аднак заклікаў галасаваць за адзінага кандыдата Уладзіміра Ганчарыка: «Калі пачнем біцца кожны за свайго кандыдата, зноў прайграем, як у 1994 годзе».

**Павел МАЖЭЙКА**

# Ганчар патрабуе дапытаць Лапаціка

Зінаіда Ганчар звярнулася з заявай у Камітэт дзяржаўнай бяспекі, міністэрства ўнутраных справаў і Пракуратуру Беларусі на прадмет працягу расследавання справы аб знікненні яе мужа. «Апошнім часам у прэсе з'явілася шмат інфармацыі, звязанай з выкраданнем майго мужа В.І.Ганчара, – піша З.Ганчар. – Пры гэтым ідуць спасылкі на нейкі дакумент, аўтарства якога прыпісваецца генералу МУС М.Лапаціку». (Відавочна, размова ідзе аб напісаным ад рукі рапарце былога начальніка Галоўнага ўпраўлення крымінальнай міліцыі МУС Мікалая Лапаціка аб магчымай датычнасці некаторых кіраўнікоў сілавых структураў да знікнення апазіцыйных палітыкаў. – **В.Б.**) «Мяне здзіўляе адсутнасць усялякай рэакцыі з боку праваахоўных органаў, і ў першую чаргу пракуратуры, якая вядзе следства», – зазначае Зінаіда Ганчар. Яна просіць дапытаць генерала Лапаціка на прадмет сапраўднасці дадзенага дакумента, правесці яго графалагічную экспертызу і праверыць выкладзеную ў ім інфармацыю. Апрача таго, праз СМІ Зінаіда Ганчар звярнулася з просьбай да генерала Лапаціка «як афіцэра і грамадзяніна публічна пацвердзіць або абвергнуць сваё аўтарства».

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

# Заробак натурай

У шэрагу калгасаў і саўгасаў Гомельшчыны заробак выдаюць натурай. Запазычанасць па зарплаце ў аграпрамысловым комплексе рэгёна складае каля 2 мільярдаў рублёў. Паводле мясцовых чыноўнікаў, людзі ўсё ж атрымліваюць трохі грошай – праз схему «абнаяўнічання тавару». Усё выглядае такім чынам: калгаснік распісваецца ў адмысловай ведамасці, што атрымаў у якасці зарплаты зерне, якое гаспадарка потым здае на нарыхтоўчыя пункты. Туды ж накіроўваюцца ведамасці і самі працаўнікі, з якімі разлічваюцца грашыма нарыхтоўчыкі.

# «Зачыстка» замест праўды

Старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька зрабіў заяву, што «апошнім часам сілавыя структуры і прапагандысцкая машына рэжыму вядуць мэтанакіраваную кампанію па запалоханні і дыскрэдытацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі і яе сяброў. АГП расцэньвае распачатую «зачыстку» як спланаваную акцыю і рэакцыю ўладаў на ініцыятыву партыі па правядзенні агульнанацыянальнай кампаніі «Хочам ведаць праўду».

# Старшыня КДБ выкліканы на допыт

Актывісты «Зубра» даслалі стршыні КДБ Леаніду Ерыну позву на допыт. У ёй гаворыцца, што Л.Ерыну трэба з'явіцца 13 жніўня ў 12.00 да помніка Дзяржынскаму ў Мінску, дзе «зубраўцы» хочуць задаць яму колькі пытанняў пра зніклых людзей. Як падае БелаПАН, Ерын у якасці каментарыя да гэтага сказаў, што маладым людзям не стае выхаванасці і такту.

# Беларускія «Шкоды»

Бліжэйшым часам у нашай краіне пачнуць збіраць аўтамабілі маркі «Шкода». Гэтыя чэшскія машыны будзе выпускаць зачынены летась завод «Форд-Юніон», што ў пасёлку Абчак пад Мінскам. Збіраць плануецца дзве маркі — «Актавія» і «Фабія». Каштаваць яны будуць каля 6-7 тысяч долараў.

# Кантрабанда для шкодных звычак

На ўкраінска-беларускай мяжы затрыманы грамадзянін Беларусі, які спрабаваў па-за пунктам пропуску ў некалькі прыёмаў перанесці з тэрыторыі Украіны ў Беларусь 100 літраў спірту і 1.000 пачак цыгарэтаў. Усе затрыманая кантрабанда ацэнена ў 1 мільён рублёў.

# Лівень касуе электрычнасць

Дзесятак населеных пунктаў Кастрычніцкага раёна Гомельскай вобласці былі пазбаўленыя на нейкі час тэлефоннай сувязі і электрычнасці ў выніку моцных ветру і лівня, што абрынуліся тут напрыканцы мінулага тыдня.

# Горбачев — адвокат Лукашенко?

## *Заявления о скором улучшении отношений с Западом безосновательны*

*На минувшей неделе, во время интересной встречи с журналистами, Лукашенко высказал свою убежденность в том, что отношения с Западом улучшатся уже к концу года. Но при одном условии, если он останется во власти.*

На чем основана такая уверенность, далеко не ясно. Ведь никаких признаков приличного поведения в отношении Запада не наблюдается. Чего стоит, например, затеянная возня вокруг приглашения на президентские выборы наблюдателей ОБСЕ. Авторитетные источники считают лицемерными заявления, в которых говорится об отсутствии конкретных сроков прибытия наблюдателей. Или о возможности прибытия без официального приглашения: Пытались. Но представителям ОБСЕ попросту белорусский МИД не давал виз. А что касается взятых обязательств, с конкретными сроками работы наблюдателей, то Лукашенко следовало бы учитывать, что на Стамбульском саммите ОБСЕ среди гостей из Минска он был не один. И принятые там документы, в том числе и с его автографом, знакомы многим.

Заявлениям Лукашенко о скором улучшении отношений с Западом предшествовали слухи, исходившие из разных источников, что в последнее время активизировалась тайная дипломатия. По некоторым данным, одним из посредников, а вернее, адвокатом на Западе стал выступать Михаил Горбачев со своим фондом. Именно через него в Вашингтон и Брюссель были направлены какие-то конфиденциальные письма чуть ли не самого Лукашенко. В них он якобы раздаривал свои очередные обещания, которые могли бы понравиться на Западе. Одно время даже циркулировала информация, что письма эти вроде бы возил лично госсекретарь Совета безопасности Урал Латыпов. Авторитетные источники присутствия Латыпова на Западе по этому поводу не подтвердили. Зато подтвердилось личное присутствие Латыпова на уборке урожая в Минской области. В то же время не подтверждается, но и не отрицается возможность его появления в Вашингтоне в качестве посла. Видимо, кому-то уж очень хочется представить слухи так, что тайная дипломатия осуществляется чуть ли не на высшем уровне. Для всех очевидно, что предпринимаемые попытки использовать существующие не противоречия, а разные подходы в разрешении «проблемы Лукашенко» между США и Европой выглядят порою смехотворными. Для проведения таких политических маневров, к которым склонны в Москве, ее минские союзники попросту не тянут по весовой категории.

Не секрет, что Лукашенко финансирует ряд программ Горбачев-фонда. Среди них, к примеру, программы по борьбе с лейкемией. По мнению некоторых московских наблюдателей, вполне логично, что в весьма ответственный период своей карьеры Лукашенко решил использовать оставшуюся популярность Горбачева на Западе в своих целях. Вопрос в другом, насколько такая адвокатская деятельность Горбачева будет способствовать сохранению его авторитета на том же Западе?

Все большую озабоченность мировое сообщество проявляет не только по поводу того, как руководитель Беларуси выполняет взятые на себя обязательства по проведению демократических и справедливых выборов. Затеянные буквально накануне президентских выборов широкомасштабные военные учения, которые в Москве уже стали называть президентскими общевойсковыми выборами, вполне могут способствовать росту напряженности в регионе. Вряд ли разумными представляются объяснения, что эти учения должны стать адекватным ответом на учения в Литве. Ведь они, ошибочно или специально называемые учениями *NATO*, проводятся Литвой (еще не членом *NATO*) в рамках программы «Партнерство ради мира».

*Окончание на стр.3*

**НАДВОР'Е**

Віцебск +17 +21
Мінск +18 +22
Магілёў +18 +22
Гродна +19 +23
Брэст +18 +22
Гомель +20 +24

Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»** 1455




АКЦЫІ

## Прабег у падтрымку Шчукіна забаронены

Мінскі гарвыканкам не дазволіў правядзенне 13 жніўня прабегу па маршруце «Мінск–Жодзіна» ў падтрымку праваабаронцы Валерыя Шчукіна, які адбывае пакаранне ў жодзінскім следчым ізалятары.

Па словах лідэра Маладога Фронту Паўла Севярынца, які падаваў заяўку на правядзенне акцыі, 9 жніўня ў тэлефоннай гутарцы з прадстаўнікамі юрыдычнага аддзела Мінгарвыканкама яго запэўнілі, што прабег дазволены, 10 жніўня яму было паведамлена аб іншым рашэнні.

У гутарцы з арганізатарамі прабегу — Паўлам Севярынцам і Андрэем Саротнікам — намеснік старшыні Мінгарвыканкама Міхаіл Пятрушын зазначыў, што гэтае мерапрыемства не дазволенае ў сувязі з тым, што арганізатары не прадставілі дазвол ад Мінскага аблвыканкама на яго правядзенне па тэрыторыі Мінскай вобласці. Аблвыканкам, у сваю чаргу, адхіліў заяўку з прычыны адсутнасці дазволу Мінгарвыканкама.

Як гаворыцца ў паведамленні прэс-службы Маладога Фронту, гэтая арганізацыя раней ужо чатыры разы арганізоўвала падобныя прабегі. Яны праходзілі без праблемаў: гарадскія і абласныя ўлады дамаўляліся паміж сабою. «Але напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў Мінгарвыканкам і Мінаблвыканкам нечакана «страцілі каардынацыю». Відаць, што наменклатура ў поўным разладзе», — пішуць маладафронтаўцы.

Тым не менш, Малады Фронт заяўляе, што акцыя ў падтрымку палітычнага зняволенага Валерыя Шчукіна абавязкова будзе праведзеная. Апоўдні 13 жніўня маладафронтаўцы маюць намер перадаць у жодзінскі следчы ізалятар перадачу для Шчукіна.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

СВЯТА

## Помнік заснавальніку Барысава

Як паведаміла БелаПАН намеснік старшыні Барысаўскага гарвыканкама па сацыяльных пытаннях і інфармаванні Валянціна Шутко, да 900-годдзя Барысава, які ўпершыню ўзгадваецца ў Лаўрэнцьеўскім летапісе як умацаваны горад Полацкага княства, запланавана будаўніцтва помніка заснавальніку горада полацкаму князю Барысу Усяслававічу. Помнік будзе ўстаноўлены на месцы заснавання Барысава — у старой частцы горада, побач са Свята-Васкрасенскім саборам. В.Шутко паведаміла таксама, што ў Барысаве створаны дабрачынны фонд, куды накіроўваюцца добраахвотныя ахвяраванні ад грамадзянаў, прадпрыемстваў, установаў і арганізацыяў горада. Больш таго, у рамках правядзення ўрачыстых мерапрыемстваў аб'яўлены конкурс на лепшы гімн і лепшы відэафільм пра Барысаў.

**Вольга АСІПЕНКА**



## Домаш супраць БТ

На 7 верасня прызначанае першае судовае паседжанне па іску Сямёна Домаша аб абароне гонару і годнасці да Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі.

Яшчэ 29 чэрвеня Сямён Домаш звярнуўся ў суд Першамайскага раёна Мінска ў сувязі з тым, што 28 красавіка 2001 года ў аўтарскай тэлепраграме Юрыя Азаронка «Тайныя спружыны палітыкі» была дадзеная «абсалютна беспадстаўная ацэнка» яго дзелавым і прафесійным якасцям «пры выкананні рабочых і грамадскіх абавязкаў пачынаючы з 1976 года».

2 траўня Домаш звярнуўся з лістом да цяпер ужо былога кіраўніка Белтэлерадыёкампаніі Віктара Чыкіна і запатрабаваў магчымасці выступіць на беларускім тэлебачанні з абвяржэннем «гэтага паклёпу». Аднак Домашу было адмоўлена, а перадача Азаронка была паказаная па БТ паўторна 3 траўня.

Пасля гэтага Домаш мусіў звярнуцца ў суд. У сваёй іскавой заяве ён настойвае, каб Белтэлерадыёкампанія абвергла «лжывыя звесткі», якія прагучалі ў праграме «Тайныя спружыны палітыкі», а таксама патрабуе спагнаць з кампаніі мільён рублёў у якасці маральнай кампенсацыі.

На думку самога Домаша, прызначэнне пачатку разгляду яго справы аж на 7 верасня звязанае з тым, што ўлады не хочуць да прэзідэнцкіх выбараў абвяргаць «ілжывую і паклёпніцкую інфармацыю», што прагучала ў яго адрас, каб «выбаршчыкі не ведалі праўды і надалей знаходзіліся ў няведанні».

**Юрый ПАЦЁМКІН**

## «Мерседэс» замест МАЗа

Магілёўскі аблвыканкам, нягледзячы на забарону набыцця старых аўтобусаў замежнай вытворчасці за бюджэтныя сродкі, не збіраецца адмаўляцца ад закупкі ў Германіі 30 аўтобусаў «Мерседэс».

Па словах старшыні аблвыканкама Барыса Батуры, кіраўніцтва МАЗа адхіліла ўсе схемы па забеспячэнні Магілёўшчыны айчыннымі аўтобусамі. У той жа час аўтобусы «Мерседэс» каштуюць каля 50 мільёнаў рублёў, маюць гарантыю тэрмінам на 5 гадоў і пераўзыходзяць МАЗы як па тэхнічных, так і па эстэтычных параметрах, ступені зручнасці для пасажыраў.

**Канстанцін УВАРАЎ**

## Пачак дусту ў нару

Бадай што першы раз за сем гадоў свайго кіравання Лукашэнка насмеліўся запрасіць да сябе трох журналістак незалежных выданняў і публічна адказаць на іхнія пытанні. Мусіць, вялікаму ўсенароднаму хакеісту дужа прыпякло напярэдадні выбараў і стала зусім няёмка хавацца ў драздоўскіх сутарэннях ад навакольнага свету. Бо нельга ж усур'ёз успрымаць рознага кшталту прыдворных казіятак і зімоўскіх у якасці сумленных прадстаўнікоў прэсы. Кожны з нас добра ведае цану гаспадарскім лёкаям. Трэба ж калі-небудзь пачуць колькі праўды і глянуць на сябе збоку вачыма нармальнага чалавека.

Адчувалася, што Лукашэнка страшэнна баіцца гэтай сустрэчы, бо запрасіў на яе ад незалежных СМІ выключна жанчын і свядома абмінуў увагай журналістаў з такіх апазіцыйных выданняў, як НАША СВАБОДА, «Свободные новости», «День», «Кур'ер», з рэгіянальнай прэсы, радыё і з Беларускай асацыяцыі журналістаў. Здавалася, што могуць тры далікатныя і выхаваныя жанчынкі супрацьпаставіць бясконцаму валу пустой дэмагогіі ды напышліваму стылю тыкання? Ажно, не! Яны не спужаліся і спыталі! Праўда, не вельмі ўдала фармулявалі свае пытанні ды не змаглі на месцы паказаць усім тэлеглядачам прынцыпы лукашэнкаўскага красамоўства, якія абапіраюцца на прыдуманыя лічбы, факты і абставіны. Але ж яны публічна задалі тыя ж самыя пытанні, адказ на якія хоча пачуць ад Лукашэнкі ўсё наша грамадства. І з надутага дзяржаўнымі СМІ вобраза Лукашэнкі адразу спусцілася колькі пустога паветра. Ён не ведае, што трэба гаварыць, калі яму сувора глядзяць проста ў вочы і пытаюць без лісліваці! Ён губляецца, калі трэба даць канкрэтны і дакладны адказ без падрыхтаванай паперкі. Тады ён мусіць падвышаць голас і перабіваць субяседніка, каб заглушыць непрыемныя аргументы. Больш таго, ён выразна злуецца і нервуецца, так што адна шчака пачынае торгацца. Дык што было б з яго прыдуманым вобразам, каб ён трапіў на прэс-канферэнцыю да ўсіх незалежных журналістаў? А што з ім



будзе, калі адважыцца на тэледэбаты ў прамым эфіры з кандыдатамі ў прэзідэнты? Гэта яму не з Кебічам заводы запускаць! Тут ужо яго спытаюць! І спытаюць пра такія рэчы, на якія ў яго няма адказаў.

Між тым, казіяткі вельмі раўніва пачалі выпраўляць уражанне ад сустрэчы з прафесійнымі журналістамі. За гады ліслівага халуйства яны самі паверылі ў прыдуманы вобраз і жахнуліся ад таго, што не ўсе яго любяць гэтак, як яны. Ёсць, аказваецца, людзі, якія не баяцца задаваць праўдзівыя пытанні іхняму гаспадару і нават не ўстаюць пры яго велічным з'яўленні. Мусіць, трэба паставіць якую «Альфу» з дубінкамі, каб прымушала гэта рабіць нават паралітыкаў. Альбо трэба потым помсціць дзенебудзь на цёмнай вуліцы кулакамі нанятых бандзюганаў. Каб ведалі, як не паважаць. Але ці будзе ад гэтага лепш самаму Лукашэнку?

**Аляксандар ДУБРАВІН**

ЛЮСТРАФАКТ



Арганізацыя «Край» усталёўвае крыж у памяць паўстанца Міхала Валовіча ў вёсцы Парэчча ў Слонімскім раёне

## Саюз даражэе

10 жніўня ў Маскве ў Пастаянным камітэце Саюзнай дзяржавы пад старшынствам дзяржаўнага сакратара Паўла Барадзіна прайшла нарада па пытанні фарміравання саюзнага бюджэту на 2002 год.

Як паведаміў БелаПАН намеснік начальніка дэпартамента інфармацыі ПК Аляксандр Мушта, папярэдне прадстаўнікі міністэрстваў фінансаў дзвюх краінаў дамовіліся аб тым, што бюджэт на наступны год складзе 3 мільярды 300 мільёнаў расійскіх рублёў. Гэта на 1 мільярд больш, чым бюджэт-2001. Прыкладна палова сумы бюджэту будучага года пойдзе на фінансаванне ўжо рэалізуемых сумесных праграмаў. Другая частка сродкаў будзе скіраваная на фінансаванне новых праграмаў. Пры абмеркаванні бюджэту, па словах А.Мушты, Павел Барадзін заклікаў у першую чаргу арганізоўваць фінансаванне праграмаў матэрыяльна-тэхнічнага характару, і асабліва тых, якія змогуць даць рэальную матэрыяльную аддачу. Падчас нарады дзяржсакратар падверг крытыцы дзейнасць дэпартамента фінансаў Пастаяннага камітэта, які, на яго думку, слаба каардынуе працу на ўчастку ад распрацоўшчыка праграмы да фінансавай крыніцы.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

## Людзі сьпіваюцца, а продаж алькаголю расьце

Адносна танныя спіртныя напоі й неперабарлівасьць мясцовых жыхароў, сэнсам жыцьця шмат якіх зь іх стала менавіта запаветнае ап'яненьне, зрабіліся прычынаю незайздроснага росту колькасьці алькаголікаў у Крычаўскім раёне (Магілёўская вобласьць).

Паводле інфармацыі Крычаўскага тэрытарыяльнага мэдыцынскага аб'яднаньня, зараз на дыспансэрным уліку ў наркалягічным кабінэце раённай паліклінікі знаходзяцца 698 чалавек, 111 зь іх – жанчыны. Сёлета ўжо 6 крычаўцаў перанесьлі белую гарачку. Судзейнічае гэтаму і рост продажу алькаголю – за 6 месяцаў бягучага году спіртных напояў і піва ў Крычаўскім раёне было рэалізавана на 10,1% болей, чым за адпаведны пэрыяд мінулага года.

Па ўзроўні спажываньня гарэлкі ды іншага «гарачыцельнага» Клімавіцкі раён не на шмат адстае ад суседняй Крычаўшчыны. Але на Клімаўшчыне людзі, як вып'юць, не сядзяць дома, а ймкнуцца да прыгодаў. Гэтак, толькі за апошні тыдзень супрацоўнікі мясцовай міліцыі склалі на клімаўцаў 78 пратаколаў за зьяўленьне ў грамадзкіх месцах у нецьвярозым стане і яшчэ 6 – за расьпіцьце спіртнога на працоўным месцы. І гэта пры гарадзкім насельніцтве ўсяго блізу 20 тысячаў чалавек.

**BARCNEWS**

ВЫБАРЫ

## Схільнасць да завышэння

«Свыше 250 тысяч членов Белорусского патриотического союза молодежи будут наблюдателями на выборах президента республики. Они намерены присутствовать на всех избирательных участках, сообщили корреспонденту БЕЛТА в молодежной организации». У гэтай інфармацыі ў вочы адразу кідаецца лічба – нібыта 250 тысяч БПСМаўцаў, што рыхтуюцца наглядаць за ходам выбараў.

Спярша можна падумаць, што гэтая арганізацыя выстаўляе ў якасці назіральнікаў за ходам галасавання падчас прэзідэнцкіх выбараў увосень усіх, каго мае ў сваіх шэрагах. Між тым гэта кожны саракавы беларус. Але рэч у тым, што ў БПСМ наогул і блізка няма такой колькасці членаў. Як распавёў на нядаўняй прэс-канферэнцыі лідэр БПСМ Юрый Салаўёў, яна рыхтуе на выбары зусім не 250 тысяч чалавек, як тое падае БЕЛТА, а 25 тысяч. Гэта значыць, роўна ў дзесяць разоў менней.

Гэтая перабольшвальная інфармацыя пра БПСМ можа быць і не проста звычайнай памылкай. Не выключана, што «нуль» узнік не выпадкова, а, дапусцім, на просьбу таго ж Ю.Салаўёва дзеля рэкламы арганізацыі. Маўляў, глядзіце, якія мы масавыя і ўсеабдымныя.

**Алесь КАТОВІЧ**

## «Беларуськалій» не хоча «хамута»

У Салігорску востра паўстае праблема скарачэння руднай базы. Больш багатыя рудныя гарызонты ўжо адпрацаваныя, таму зараз шахцёрам даводзіцца пачынаць бяднейшыя.

Для распрацоўкі новага руднага ўчастка пад Салігорскам да 2010 года шахцёрам патрэбна 150 мільёнаў долараў. Але, як сказаў генеральны дырэктар вытворчага аб'яднання «Беларуськалій» Андрэй Башура, ёсць магчымасці іх скараціць на 45 мільёнаў. Свае інвестыцыі ў распрацоўку гэтага ўчастка прапаноўвала адна расійская фірма, але з умовай, што частка ўчастка адыдзе ёй, а гэта, зразумела, беларускі бок не задаволіла.

Не менш значнай праблемай для шахцёраў стала адсутнасць газіфікацыі рудаўпраўленняў. З таго часу, як 2 гады таму кошты на нафтапрадукты падвысіліся, выкарыстоўваць мазут стала стратна. За суткі спальваецца да 470 тонаў мазута, які даводзіцца закупляць у Расіі па 152 долары за тону. Эквівалентны тоне мазута аб'ём газу не перавышае 50 долараў.

Свае паслугі па правядзенні газаправода прапанавала расійская кампанія «Ітэра». Але, паводле А.Башуры, за гэта яна патрабуе 24 мільёны долараў, калі па сусветных коштах гэта ў два разы танней. Такім чынам, у гэтую суму ўключаныя залікі за электраэнергію. Каб спажыць электраэнергію на такую суму, «Беларуськалію» спатрэбіцца некалькі гадоў, а «вешаць на сябе хамут» за некага іншага, паводле А.Башуры, аб'яднанне не хоча.

**Алена ПАЗЬНЯК**

## За супакой душы паэткі

11 жніўня ў Зэльве па штогоднняй традыцыі сабраліся тыя, хто шануе памяць Ларысы Геніюш. Яна нарадзілася 9 жніўня ў 1910 годзе.

Сёлета ў мясцовай царкве адбыўся малебен за супакой душы паэткі і яе родных. Правіў набажэнства а. Аляксандр. Ім жа была прачытаная малітва над магіламі Л.Геніюш і яе мужа. Прысутныя ўсклалі на магілы кветкі і вянок з бел-чырвона-белай стужкай.

Затым ля зэльвенскага вадасховішча на вольным паветры адбылася вечарына памяці паэткі. Гучалі яе вершы, успаміны, спевы. Між іншым, выступілі Данута Бічэль з Гродна, якая добра ведала Ларысу Геніюш, і Анатоль Сідарэвіч з Мінска.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

ПОБЫТ

## Новых жыллёвых кааператываў не будзе

Міністэрства будаўніцтва і архітэктуры прыняло рашэнне прыпыніць стварэнне новых жыллёва-будаўнічых кааператываў (ЖБК), якія вядуць будаўніцтва жылля за кошт ільготных крэдытных рэсурсаў.

Ужо існуючым ЖБК ільготныя рэсурсы будуць выдаткоўвацца ў большых памерах, каб паскорыць працэс выканання абавязкаў перад іхнімі ўкладчыкамі. На гэта спатрэбіцца не менш за 7-8 гадоў.

Што тычыцца зніжэння коштаў на жыллёвае будаўніцтва, то рабіцца гэта будзе як пасродкам зніжэння каштарысу праектных распрацовак, так і праз вызваленне насельніцтва ад платы за падвядзенне камунікацыйнай сеткі да пабудаваных дамоў. Кошт такіх работ павялічвае выдаткі насельніцтва на будаўніцтва на 47%, а ў сельскай мясцовасці – у 2 разы.

Цяпер работы па падвядзенні да дамоў камунікацыяў будуць фінансавацца з сямі іншых крыніцаў, у тым ліку за кошт падаткаў і з жыллёвага інвестыцыйнага фонду. А правядзенне газу альбо электрычнасці будзе аплачвацца з інавацыйных фондаў «Белтрансгазу» альбо «Белэнерга». Але вызваленыя ад такіх затратаў будуць толькі «навасёлы», якія стаялі на ўліку маючых патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоваў альбо будавалі жыллё за кошт ільготных дзяржаўных крэдытаў.

**Алена ЛАБАНАВА**

ПРЫРОДА

## Елкі пад аховай

Цяпер за кожную незаконна ссечаную елку парушальнік павінен будзе кампенсаваць суму ў 1 мінімальны заробак, а за кожную тону бярозавага ці кляновага соку – у 10 мінімалак. Такія сумы ўсталяваны ўрадам для спагнання вартасці незаконна дабытай драўніны і іншай лясной прадукцыі з фізічных альбо юрыдычных асобаў, калі ў натуры ўзяць яе ў іх ужо немагчыма.

За 1 кубічны метр драўніны парушальніку прыйдзецца выкласці падвойны памер яе кошту, за кілаграм лекавай ці тэхнічнай сыравіны – палову «мінімалкі», а за тону сена альбо за кілаграм ягад ці грыбоў – па «мінімалцы».

**Алена ЛАБАНАВА**

# Горбачев — адвокат Лукашенко?

*Заявления о скором улучшении отношений с Западом безосновательны*



*Окончание. Начало на стр.1*

Кстати, участником этой программы является и Беларусь. И спланированы учения были еще два года назад. Понятно, что о нынешних президентских выборах в Беларуси тогда и Лукашенко не мог знать. А вот данные военные игры в Беларуси как раз и были объявлены после того, как стало ясно, когда должны состояться президентские выборы. И что символично, так это то, что боевые стрельбы начнутся 1 сентября — в день начала Второй мировой войны. До сих пор нет полной ясности, насколько такого рода предвыборные игры в солдатиков одобрил Путин во время своей встречи с Лукашенко в Сочи. Как-никак, эти игры коснутся и залетов белорусских асов и стрельб ракетных комплексов и на российской территории. На эти обстоятельства обращают внимание на Западе.

Примером нарастающей озабоченности вокруг складывающейся ситуации в Беларуси могут служить сделанные на минувшей неделе аж целых два заявления — Хельсинкской комиссии Конгресса и пресс-секретаря Госдепартамента США. До них с подобными заявлениями выступили практически все евроатлантические структуры. По некоторым данным, ожидается, что по ситуации в Беларуси в ближайшее время может выступить очень высокопоставленный представитель США. И в отличие от всех предыдущих заявлений, ожидаемое будет адресовано не только Минску, но и союзной ему Москве. А точнее, Кремлю. Трудно представить, чтобы, в отличие от Горбачева и Ельцина, которого Лукашенко назвал другом Запада, в нынешнем российском руководстве не отдавали себе отчет, что в связи с предстоящими президентскими общевойсковыми выборами в Беларуси может произойти «перегрев» ситуации. По государственному телевидению уже стали «разогревать» такую тему, как транзитные через белорусскую территорию трубопроводы и их безопасность. Помнится в иной, дружелюбной форме о транзите российского газа высказался в Сочи Путин. По его словам, газопровод через Беларусь должен принести благоденствие ее гражданам. При этом лично Лукашенко упомянут не был.

**Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ**

## Новое уголовное дело против «Зубра»

Очередное уголовное дело за нанесение граффити было возбуждено 10 августа в Гомеле. Четыре активиста движения ЗУБР были арестованы сотрудниками КГБ во время нападения комитетчиками на офис молодежного центра «Гарт». КГБ конфисковал все компьютеры и оргтехнику молодежного центра, на базе которого работают несколько молодежных организаций, в том числе и ЗУБР.

Это уже второй случай нападения на молодежный центр «Гарт». Несколько дней назад в офис также пытались ворваться сотрудники КГБ, которых, однако, не впустили. В ответ они обесточили здание и задержали двоих несовершеннолетних зубров, одному из которых пришлось провести ночь в приемнике-распределителе.

На этот раз сотрудники Комитета госбезопасности не только конфисковали все компьютеры и оргтехнику молодежного центра, полностью остановив его работу, но и арестовали четверых активистов движения ЗУБР. Зубры были допрошены в качестве свидетелей по возбужденному уголовному делу по факту нанесения граффити. Это уже третье уголовное дело, возбужденное в Беларуси за граффити. Два из них были возбуждены по факту нанесения граффити, но одно — непосредственно против четверых активистов движения ЗУБР, которые были приговорены режимом к исправительным работам и крупным штрафам.

Но вместе с усилением репрессий против ЗУБРа активность участников этого молодежного движения сопротивления только растет.

## Кніга пра Генадзя Карпенку



Фота Ул.ШЛАПАКА

10 жніўня ў гатэлі «Беларусь» адбылася прэзентацыя кнігі «У часу ў палоне», прысвечанай памяці вядомага беларускага палітыка Генадзя Карпенкі, які трагічна памёр 6 красавіка 1999 года ў выніку інсульту.

У кнізе сабраныя матэрыялы аб жыцці і дзейнасці Генадзя Карпенкі, успаміны пра яго блізкіх сваякоў — жонкі, брата, маці, дачкі, а таксама сяброў і паплечнікаў. Апрача таго, змешчаны артыкулы і публічныя выступленні Генадзя Карпенкі. Аўтарам кнігі стаў брат народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча — пісьменнік Мікола Гіль. «Гэтая кніга аб яркім і кароткім жыцці, — сказала на прэзентацыі ўдава палітыка Людміла Карпенка. — З яе старонак вы зможаце пачуць голас майго мужа, даведацца аб яго жыцці і барацьбе». Па словах Людмілы Карпенка, за два гады, што прайшлі пасля смерці яе мужа, удалося зрабіць вельмі многае: створаны фонд Генадзя Карпенкі. выдадзены зборнік артыкулаў «Генадзя Карпенку забілі?», а зараз выпушчана яшчэ і кніга. У бліжэйшых планах Людмілы Карпенкі — зняць фільм пра мужа.

Сваімі ўспамінамі аб вядомым палітыку на прэзентацыі кнігі падзяліліся яго паплечнікі па Аб'яднанай грамадзянскай партыі, ля вытокаў якой стаяў Генадзь Карпенка, вядомыя беларускія палітыкі і яго сябры. Усе сышліся на думцы, што лепшай памяццю Генадзю Карпенку стане перамога дэмакратычных сілаў на прэзідэнцкіх выбарах.

Сярод запрошаных на прэзентацыю былі адзін з верагодных прэтэндэнтаў на пасаду прэзідэнта Сямён Домаш, кіраўнік выбарчай кампаніі адзінага кандыдата ад дэмакратычных сілаў Уладзіміра Ганчарыка Васіль Лявонаў, лідэры Аб'яднанай грамадзянскай партыі і Беларускай партыі жанчын «Надзея» Анатоль Лябедзька і Валянціна Палевікова, шэраг іншых вядомых беларускіх палітыкаў.

**Юрый ПАЦЁМКІН**

## Домаш застаўся без камп'ютэра

10 жніўня супрацоўнікі Гродзенскага абласнога аддзела па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю (АБЭЗ) міністэрства ўнутраных справаў Беларусі канфіскавалі камп'ютэры і іншую аргтэхніку ў грамадскага аб'яднання «Ратуша». Кіраўнік «Ратушы», патэнцыйны кандыдат у прэзідэнты Сямён Домаш застаўся без камп'ютэра.

Як паведаміла прэс-служба Сямёна Домаша, у мінулую пятніцу офіс «Ратушы» наведалі тры прадстаўнікі АБЭЗа, якія пачаліператрус. Прэс-служба асабліва адзначае, што міліцыянты не мелі пры сабе санкцыі пракурора. Выконваючы супрацьзаконныя дзеянні, яны спасылаліся на тое, што выконваюць загад намесніка начальніка АБЭЗ Іосіфа Барташэвіча.

Сямён Домаш, які застаўся фактычна без працоўнага месца, быў вымушаны паставіць у вядомасць пра здарэнне сакратара Цэнтрвыбаркама Мікалая Лазавіка. Паводле прэс-службы С.Домаша, патэнцыйны кандыдат у прэзідэнты давёў да ведама сп. Лазавіка, што міліцыянты фактычна паралізавалі работу ягонага афіцыйнага сайта, не працуе электронная пошта, сталася немагчымай перапіска. Прычым адбылося гэта ў самы разгар перадвыбарнай кампаніі, усяго за тры дні да рэгістрацыі кандыдатаў у Цэнтрвыбаркаме.

Як стала вядома, Сямён Домаш звярнуўся асабіста да Іосіфа Барташэвіча і патрабаваў ад яго спыніць беззаконне. Намеснік начальніка АБЭЗ не здолеў патлумачыць, на падставе якіх заканадаўчых актаў былі канфіскаваныя камп'ютэры і аргтэхніка ў «Ратушы», але адмовіўся прызнаць незаконнай дзейнасць сваіх падначаленых. І.Барташэвіч заявіў, што «калі ён не мае рацыі, то яго паправіць пракурор».

Патэнцыйны кандыдат у прэзідэнты таксама сустрэўся з пракурорам Гродзенскай вобласці Васілём Літвінавым. Падчас сустрэчы С.Домаш заявіў, што «разглядае дзеянні супрацоўнікаў АБЭЗ як самы сапраўдны разбой, рабунак сярод белага дня». Ён таксама выказаў спадзяванне, што парушальнікі закона, тыя, хто спрабуе перашкодзіць ягонай перадвыбарнай кампаніі, панясуць адказнасць ва ўстаноўленым законам парадку».

Прэс-служба кіраўніка «Ратушы» нагадвае, што гэта ўжо далёка не першы выпадак ціску на кандыдата ў прэзідэнты ад грамадскай кааліцыі. Больш за тое, апошнімі днямі гэты ціск толькі павялічваецца. Прыкладам, 8 жніўня праваахоўныя органы правяліператрус у памяшканні Гомельскага грамадскага аб'яднання «Грамадзянскія ініцыятывы», кіраўнік якога, Віктар Карніенка, узначальвае ініцыятыўную групу С.Домаша па Гомельскай вобласці. Быў арыштаваны намеснік кіраўніка ініцыятыўнай групы Віктар Кацора, суд над якім прызначаны на 16 жніўня.

Прадстаўнікі С.Домаша лічаць, што ўлады не спыняцца на дасягнутым і правядуць рэпрэсіі ў іншых абласных штабах С.Домаша.

**Міхась КАРПОВІЧ**

## «Ланцуг неабыякавых людзей» каля БТ

Каля 40 чалавек узялі ўдзел у акцыі апазіцыі «Ланцуг неабыякавых людзей», якая прайшла 9 жніўня з 17 да 18 гадзінаў у Мінску ля будынка Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі Беларусі па вуліцы Макаёнка, 9. Чарговая акцыя была арганізаваная Аб'яднанай грамадзянскай партыяй (АГП) у межах кампаніі «Хочам ведаць праўду».

Удзельнікі акцыі трымалі ў руках партрэты беларускіх палітыкаў, бізнесменаў, журналістаў, што зніклі, загінулі пры невысветленых абставінах, падвергліся рэпрэсіям: Анатоля Майсені, Юрыя Захаранкі, Генадзя Карпенкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага, Дзмітрыя Завадскага, Андрэя Клімава, Валерыя Шчукіна.

Як паведаміў карэспандэнту БелаПАН старшыня АГП Анатоль Лябедзька, падобныя мерапрыемствы пад назвай «Ланцуг неабыякавых людзей» праходзяць не толькі ў Мінску, але і ў іншых гарадах Беларусі. Месца правядзення сённяшняй акцыі ў Мінску выбранае не выпадкова. Як вядома, у апошняй аналітычнай праграме БТ «Рэзананс» прагучалі сцвярджэнні, што АГП за грошы дапамагае грамадзянам Беларусі атрымаць палітычны прытулак на Захадзе, і, магчыма, гэткім жа чынам за мяжу былі вывезеныя Юрый Захаранка, Віктар Ганчар і іншыя вядомыя людзі, што зніклі без вестак. Анатоль Лябедзька сказаў: «Наша акцыя — гэта адказ на пазіцыю, якую займае сёння Беларускае тэлебачанне. Яно ўтрымліваецца на грошы беларускіх падаткаплацельшчыкаў. Прычым, і тых грамадзянаў, якія знаходзяцца ў апазіцыі. Але чамусьці Беларускае тэлебачанне ператварылася ў фірму па рэкламе аднаго прадукту, які называецца «Аляксандр Рыгоравіч». Велізарная колькасць бруду выліта тэлебачаннем на нашых калегаў — сем'і Юрыя Захаранкі і Віктара Ганчара. Але сям'я Захаранкі паехала з Беларусі і не можа абараніць свой гонар, падаць у суд за тую хлусню, якую вядучыя БТ выліваюць з экрана. Таму мы і выйшлі сюды». Па словах Лябедзькі, ад імя АГП будзе пададзены іск да Аляксандра Зімоўскага, Яўгена Новікава, іншых журналістаў і тэлевядучых. «Нашы людзі гатовыя дараваць уладзе многае, але не даруюць прамой або ўскоснай датычнасці да забойства людзей і да спробаў прыкрыць гэтыя злачынствы», — дадаў палітык.

Нягледзячы на тое, што «Ланцуг неабыякавых людзей» традыцыйна быў несанкцыяваным, міліцыя не затрымала нікога з удзельнікаў акцыі.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

**ЧАС ВЫБІРАЦЬ! 9 верасня**



 





# Двести тысяч за двести лет

*События двухлетней давности в Дагестане послужили началом, как принято говорить, «второй чеченской войны». На самом деле эту войну нельзя называть второй. Россия, пусть с перерывами, воюет с Чечней уже двести лет. В этой войне, по самым приблизительным подсчетам, убито и ранено более 220 тыс. человек. В среднем по тысяче сто в год.*

## Война с горцами

Активные боевые действия русской армии на Кавказе велись с 1801 по 1864 год. С 1801 по 1830 год боевые потери на Кавказе не превышали нескольких сотен человек в год и были связаны преимущественно с отражением отдельных набегов и вооруженных выступлений горцев. Например, в 1829 году общие потери составили 299 человек убитыми и ранеными. Ситуация резко изменилась к началу 30-х годов XIX столетия. Возросли потери в кавказских российских войсках: 1.364 человека убитыми и ранеными в 1830 году, 2.768 – в 1831-м, 1.897 – в 1832-м. Затем до 1839 года, когда закончилось перемирие с горцами (1837–1839 годы), наблюдался временный спад потерь.

В 1840–1846 годах российские войска понесли наибольшие потери. Самым кровопролитным стал 1845 год, когда Кавказский корпус потерял убитыми 56 офицеров и 1.525 нижних чинов, а ранеными соответственно 249 и 3.791. Назначенный в 1845 году главком кавказских войск граф Михаил Воронцов принял решение о захвате главной базы снабжения войск имама Шамиля аула Дарго. Экспедиция, прозванная участниками «сухарной», так и не достигнув основной цели, с 6 по 21 июня 1845 года унесла жизни трех генералов (армейских – Фока и Пассека и начальника 6-го округа корпуса жандармов Викторова), 41 офицера, 1.017 нижних чинов; ранено было 175 офицеров и 2.576 солдат.

Меньше боевых потерь было в 1853–1856 годах, когда основные силы русской армии были сосредоточены на Крымской войне. С 1856 года главнокомандующий Кавказской армией и наместник на Кавказе генерал Александр Барятинский развернул с трех сторон концентрическое наступление на Чечню и Дагестан. Борьба за овладение Ведено с 1 января по 1 апреля 1859 года обошлась Кавказской армии в 36 убитых, причем непосредственно при штурме погибли два человека. 25 августа 1859 года в ауле Гуниб сдался в плен сам Шамиль.

По данным «Сборника сведений о потерях Кавказских войск во время войн кавказско-горской, персидских, турецких и в Закаспийском крае. 1801–1885», изданного в Тифлисе в 1901 году, общие боевые потери российской армии за 64 года войн на Кавказе составили: убитыми 804 офицера (в том числе 13 генералов и 21 командир части) и 24.143 нижних чина; ранеными 3.154 офицера и 61.971 нижний чин; пленными 92 офицера и 5.915 нижних чинов.

В число боевых потерь не включены военнослужащие, умершие от ран или погибшие в плену. Число умерших от болезней в местах с неблагоприятным для европейцев климатом в три раза превышало число погибших на поле боя. Таким образом, безвозвратные потери военнослужащих в результате боевых действий, болезней, гибели в плену достигают не менее 77 тыс. человек. Число погибших горцев неизвестно.

## Война с антисоветскими элементами

После установления советской власти на Кавказе особенно активная борьба против Советов разгоралась в горных районах Чечни и Ингушетии и Горного Дагестана при массовой поддержке повстанцев местным населением. Первая специальная операция войск ОГПУ и НКВД состоялась весной 1924 года. Под страхом ареста и физического уничтожения у населения было конфисковано 2.900 винтовок, 384 револьвера и незначительное количество боеприпасов.

В 1925 году местным партийным органам, руководству НКВД и командованию Северо-Кавказского округа было приказано подготовить и провести новую операцию. В ней приняли участие до 7 тыс. человек личного состава с 240 пулеметами и 24 артиллерийскими орудиями. Соединение было усилено бронепоездом и двумя авиационными отрядами. При бомбежке с воздуха 16 аулов и ружейно-пулеметном и артиллерийском обстрелах 101 аула было убито шесть, ранено 30 мирных жителей и разрушено 119 домов. Еще 12 повстанцев были убиты, когда пытались оказать вооруженное сопротивление при изъятии оружия. Всего было захвачено 25.299 винтовок, 4.319 револьверов, пулемет и до 80 тыс. патронов. Потери красноармейцев составили пять человек убитыми и девять ранеными.



1845 год. Взятие аула Дарго графом Воронцовым

Для подавления восстания чеченцев в 1928 году Северо-Кавказский округ выделил 2 тыс. человек при поддержке артиллерии и авиации. В результате операции было изъято 290 винтовок, большое количество устаревшего огнестрельного и холодного оружия. О количестве убитых, раненых и захваченных мятежников не сообщалось. За время операции погиб и умер от ран 21 красноармеец, еще 22 человека получили ранения.

В начале марта 1930 года в Чечне вновь вспыхнуло восстание, охватившее несколько аулов. Для войсковой операции по его подавлению, начавшейся 13 марта, было сформировано несколько отрядов пехоты и кавалерии общей численностью 3,5 тыс. человек. Впервые для повышения мобильности войск в большом количестве использовались автомобили. За неделю было убито 19 горцев, изъято 1.600 единиц огнестрельного и 300 единиц холодного оружия. Красная армия потеряла 14 человек убитыми и 22 ранеными.

25 марта 1932 года в районе Беной началось очередное восстание. Против горцев были брошены войска. Восстание было подавлено в течение недели.

В 1941 году зарегистрирован 71 случай «бандповстанческих проявлений» (31 – до 22 июня, 40 – после). В декабре 1941 года для борьбы с чеченскими повстанцами был создан 178-й мотострелковый батальон оперативных войск НКВД (в январе 1942 года он был развернут в 141-й горно-стрелковый полк). 11 июля 1942 года в Шатойском районе им был окружен отряд под командованием Асуева, военного руководителя повстанцев. В бою было убито шесть чеченцев, в том числе и Асуев. В полку погибли шесть и были ранены четыре человека.

В 1941–1943 годах на Северном Кавказе были ликвидированы 963 группы повстанцев общей численностью 17.563 человека. В первой половине 1944 года пресечено действие 145 групп (3.144 человека). По распоряжению Сталина в конце 1943-го – начале 1944 года была осуществлена депортация ряда северокавказских народов (чеченцев, ингушей, карачаевцев, балкарцев) в отдаленные районы Средней Азии и Казахстана.

По приблизительным подсчетам, в боях 1924–1944 годов горцы потеряли убитыми и ранеными около 21 тыс. человек, Красная армия – около сотни бойцов.

## Война с сепаратистами

30 ноября 1944 года президентом Российской Федерации Борисом Ельциным был издан указ 2137с «О мероприятиях по восстановлению конституционной законности и правопорядка на территории Чеченской республики». Армия была введена в Чечню в декабре 1994 года, но еще до этого в полевой госпиталь на аэродроме Моздока поступило 76 раненых (гражданских лиц и военнослужащих внутренних войск).

12 октября 1996 года «Красная звезда» впервые публикует список из 2.941 фамилии военнослужащих МО, погибших в Чечне. Сведения давались на 4 октября (без военнослужащих внутренних войск МВД и пограничных войск). 13 ноября 1997 года это же издание сообщает о 1.104 погибших внутренних войск МВД РФ в конфликте на территории Чечни. А по данным Сергея Осипова, руководителя временной рабочей группы по розыску и освобождению насильственно удерживаемых в Чечне лиц, на 18 марта 1997 года число пропавших без вести оценивалось в 1.346 человек.

Таким образом, во время конфликта 1994–1996 годов потери составили более 5 тыс. человек только военнослужащих. Это подтверждают и данные из недавно вышедшей в свет книги «Россия (СССР) в локальных войнах и военных конфликтах второй половины XX века», из которой видно, что безвозвратные потери федеральных войск составили 5.551 человек, а санитарные потери (они включают в себя раненых и заболевших) – 51.304 человека. По весьма условным данным, численность погибших мирных жителей составила более 39 тыс. человек.

По оценкам первого заместителя начальника Генерального штаба генерал-полковника Валерия Манилова, потери среди чеченских боевиков составили 10 тыс. человек. Другие источники говорят о 2.700 человек.

Первая фаза боевых действий – война на территории Дагестана и точечные удары по объектам на территории Чечни – продолжалась со 2 августа по 1 октября 1999 года.

За этот период потери частей министерства обороны, МВД и ФСБ составили 275 человек убитыми и 937 ранеными (по другим данным, 288 убитых и 984 раненых), еще 15 человек считаются пропавшими без вести.

С момента начала боевых действий на территории Чеченской республики с октября 1999 года по июнь 2001 года безвозвратные потери федеральных сил составили, только по официальным данным, 3.096 человек, в том числе министерства обороны – 2.026 военнослужащих, внутренних войск МВД РФ – 738 военнослужащих. Число раненых составляет более 8 тыс. человек (более точные данные отсутствуют). Потери боевиков, по заявлению генерала Манилова, составили 5 тыс. в Дагестане и 14 тыс. в самой Чечне (по другим данным – около 1,5 тыс. человек в Дагестане и около 10 тыс. в Чечне). В целом же за семь лет, по разным данным российской стороны, – от 20 тыс. до 30 тыс. человек.

Федеральные силы за последние семь лет противостояния на Северном Кавказе безвозвратно потеряли более 8 тыс. военнослужащих (без учета военнослужащих, умерших в госпиталях), а санитарные потери составили более 80 тыс. человек (из них ранеными, контужеными, обожженными около 22 тыс. военнослужащих). Сейчас этот список ежедневно пополняется как минимум тремя военнослужащими.

В целом же за 200 лет войны в ней было убито и ранено от 220 тыс. до 240 тыс. человек.

**Айрат ШАБАЕВ, «Коммерсантъ-Власть»**

# Взрыв терпения



По официальным данным, при взрыве в ресторане «Сбарро» в центре Иерусалима погибли не менее 14 человек, 90 ранены. Ответственность за действия камикадзе взял на себя ХАМАС. По данным израильских спецслужб, в район Тель-Авива запущен еще один террорист-самоубийца.

Ежедневный беспредел на территориях, привычные убийства еврейских поселенцев остаются без последствий – только большая кровь заставила кабинет Шарона поднять в воздух истребители *F-16* и взять под контроль палестинские административные здания в Восточном Иерусалиме. До сих пор эти штабы террора функционировали безнаказанно. Предыдущий крупный теракт – бойня у тель-авивской дискотеки – остался без вооруженного ответа. Впервые в израильской истории. У Шарона была всепоглощающая цель – переломить мировое общественное мнение, настроенное в пользу палестинцев. Непохоже, чтобы эта пропагандистская тактика принесла успех. Во всяком случае, на этот раз бездействие уже невозможно, как бы ни старались международные няньки со своими многочисленными и абсолютно бессмысленными планами замирения.

# Явное преступление – скрытая ошибка

*Окровавленные тела на носилках, вой сирен полицейских машин и автомобилей «скорой помощи», бегущие в панике люди, развороченные окна закусочной. Сегодняшний день Иерусалима, города, в котором всего несколько лет назад евреи даже ночью – ночью! – могли безбоязненно прогуливаться по арабским кварталам... Взрыв в иерусалимской пиццерии «Сбарро» может стать настоящей «точкой кипения» в выяснении отношений между израильтянами и палестинцами.*

Как и недавний террористический акт в тель-авивской дискотеке – тогда среди погибших было большинство выходцев из СНГ, – взрыв в Иерусалиме только укрепляет позиции сторонников жесткой линии в израильском руководстве. Палестинцы обвиняют во всем премьер-министра Израиля Ариэля Шарона. Шарон, став главой израильского правительства, проявил неожиданную сдержанность в реагировании на палестинские угрозы и террористические акты – можно сказать, из «ястреба» стал «голубем». Но таким «голубем», который выжидает, пока остальные «голуби» превратятся в «ястребов».

Остальное зависело уже от палестинцев. Им оставалось либо воздерживаться от эскалации насилия, укрепляя таким образом позиции таких сторонников диалога в израильском руководстве, как вице-премьер и министр иностранных дел Шимон Перес, и не давая Шарону возможности меняться, либо и дальше засылать в Израиль смертников, давая все новые аргументы сторонникам адекватного ответа на террористические акты. Палестинцы выбрали второй, крайне непродуктивный для них путь.

Трудно сказать, какой логикой руководствуется руководство Палестинской автономии. Скорее всего, продолжая рассматривать мирный процесс как всего лишь временное тактическое отступление, Арафат и его окружение попросту неспособны осознать, что у них нет реальных сил противостоять Израилю, а с каждым новым терактом они лишь отдаляют возможность провозглашения собственного государства. В руководстве ООП победили фанатичные и далекие от реализма группировки, искренне уверенные, что, убивая евреев в их же городах, они посеют среди израильтян панику и заставят их покинуть страну. Как категорично выразился один из лидеров ХАМАСа в интервью телекомпании *CNN*, евреи не будут чувствовать себя в безопасности в Палестине никогда. В безопасности они будут ощущать себя только в своих странах – Польше или США...

Арафат на стороне этих победивших – иначе террор в Израиле был бы давно остановлен, как останавливался он всегда, когда на то была воля Арафата. Но расчет на еврейскую панику исходит из ложной посылки. Если в самом Израиле искренне считают (или считали?), что мирный процесс является отражением желания страны жить в мире со своими арабскими соседями, то для палестинцев это желание израильтян – всего лишь проявление слабости и страха, плод успеха первой интифады, который должен быть подкреплен успехом интифады второй.

Именно поэтому Израилю, по-видимому, придется путем все учащающихся и ужесточающихся акций возмездия усилить контроль за территорией автономии, самостоятельно ликвидировать лидеров радикальных террористических организаций и продемонстрировать Арафату, что политика насилия лишает его того, ради чего он, собственно, и затевал свою борьбу, – Палестинского государства и власти в этом государстве. И только когда Арафат поймет это, начнется новый мирный процесс, новое тактическое отступление. Важно только, чтобы таких тактических отступлений было как можно больше и интервалы между ними не были бы велики...

**Виталий ПОРТНИКОВ www.grani.ru**

 

# Венценосная истерика

Впервые граждане свободной Беларуси были удивлены, поражены и ввергнуты в полнейшее замешательство. Вдруг выяснилось, что Александр Григорьевич Лукашенко чего-то опасается. Да чего может вообще опасаться такой президент?! Нет, не злых собак, не бандитской пули, не грома или электрического разряда, не инфаркта, не инсульта или СПИДа — нет! Опасается он единственно одного: «фальсификации итогов президентских выборов».

И, видать, всерьез опасается, ибо еще и близко нет не только итогов, но и самих президентских выборов, а он уже обеспокоен. И темной ночью, когда ослабевает жара и сияние небесного Солнца не мешает сиянию Солнца земного, то есть минского, пронзает вдруг мозг Александра Григорьевича мысль: сфаль-си-фи-ци-ро-ва-ли! Уууууу!

Кому это «вам»? Кому это «уууууу»? А вот г-н Заметалин, замглавы администрации президента Беларуси, выступил и сказал: оппозиция, мол, готовит активный параллельный подсчет голосов во время президентских выборов в целях искажения их действительных итогов. Какая плохая эта оппозиция, ай-яй-яй! И какая, надо сказать, богатая! Ибо, по словам Заметалина, выходит, что «купленные телевизионно-политические ди-джеи будут выколачивать» из избирателей нужные им ответы. При этом Заметалин не исключает, что людям могут даже предложить взятку, чтобы «получить заказанное мнение». Когда они получат «30 или 60 или 100 записанных «нужных» голосов, то по существу все независимое наблюдение и параллельный подсчет на этом закончатся», — считает Заметалин.

Слово-то какое — ди-джеи! Это такие парни, которые в ночных клубах и на вечеринках всяких музыку ставят, пластинки крутят, чтобы публике веселящейся угодить. А при чем тут политика? Тю! Да неужели ж вы не видите, при чем? Русскую поговорку «кто платит, тот и музыку заказывает» знаете? Не знаете? Надо знать, ибо мы с Россией объединяемся, и все поговорки надо знать, к примеру, не в свои сани не садись. Нет, это я просто так сказал, без подтекста. Так вот, закажут эти богатые оппозиционеры музыку какой захотят, и под эту музыку будет плясать вся Беларусь. То-то будет невесело, то-то нехорошо!

Затем «по всему миру запускаются телекадры, ролик крутят телекомпании, и такую «липу», созданную при помощи международных организаций, которые называют себя исключительно демократическими, признают в качестве законного акта волеизъявления народа», — прогнозирует Заметалин.

Но позвольте, и дальше-то что? Когда же это президента Лукашенко беспокоила реакция международной общественности? Во время прошлых выборов он, помнится, говорил нечто вроде: «Ну не признают они наши выборы. Ну и что? Что они, на Луну нас выселят, что ли? Не выселят ведь!». И вправду, не выселят, даже если по всем без исключения телеканалам покажут — как когда-то «Лебединое озеро» — лично А.Г. Лукашенко, подделывающего бюллетени в свою пользу. И нечего храброму Лукашенко «опасаться». Даже если Кассандра-Заметалин окажется прав, и «финальным актом сценария фальсификации будет создание эффекта массовых беспорядков после дня голосования». Для этого «пятьдесят тысяч выходят на улицы, начинают беспорядочно бить стекла, причем обязательно должно быть кровопролитие, чтобы придумать версию, что завтра надо кого-то похоронить».

Да если даже будут похоронены все без исключения (то есть, только с одним исключением) граждане свободной страны, все равно ведь на Луну не выселят! Так что непонятна природа венценосной истерики. Не говоря уж о том, что «фальсификация результатов выборов», по логике русского (и, наверное, белорусского тоже) языка, может быть осуществлена лишь органом, официально фиксирующим эти результаты, а именно — Центральной Избирательной Комиссией Республики Беларусь. И больше никем другим. Любая оппозиция может не признавать результаты выборов, выставить альтернативные аргументы, но сфальсифицировать их она не в состоянии — по определению. Ибо сфальсифицировать результаты выборов можно, лишь получив доступ к избирательным бюллетеням, какового доступа оппозиции никто обеспечивать не собирается. Если же смыслом слов Заметалина является то, что в ЦИК РБ прокрались враги, троцкистско-бухаринские наймиты, пролезли через щели, просочились сквозь унитазы, залетели в вентиляционные отверстия — и ждут-не дождутся, как бы что-нибудь сфальсифицировать, то претензии Заметалина должны быть направлены к его непосредственному шефу, А.Г. Лукашенко, чья активнейшая — особенно в последнее время — кадровая политика привела к такому (если оно действительно таково) положению дел в ЦИКе.

Впрочем, Заметалин быстро успокоился. В том же своем выступлении, которое оформлено в виде интервью газете с анахроническим названием «Советская Белоруссия», Заметалин выразил твердую советскую уверенность, что «такой сценарий в Беларуси не пройдет». И враг не пройдет. И победа будет за нами. Уууууу!

**Клавдий ЗАЛЬЦ**
**«Газета СНГ»**



Фота Ул. ШЛАПАКА

# Лукашэнка запазычвае ў Мілошавіча не асобныя старонкі, але «поўны збор твораў»

«Узыходзячае сонца» — так называецца артыкул, апублікаваны ў еўрапейскім выпуску ўплывовай амерыканскай газеты *The Wall Street Journal* і прысвечаны сітуацыі ў Беларусі напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў.

«Падобна старажытнаму фараону, якому мроіліся пакуты, калі ён не вызваліць ізраільцянаў, абсалютны ўладар Беларусі знаходзіцца ў палоне цёмных прыкметаў і прадчуванняў, – піша *The Wall Street Journal.* — Лукашэнка запазычвае ў Мілошавіча не асобныя старонкі, але «поўны збор твораў». Але калі спадар Лукашэнка жадае пазбегнуць лёсу Мілошавіча, ён павінен не капіяваць ягоныя паводзіны».

«На мінулым тыдні Аляксандра Лукашэнку турбаваў прэцэдэнт Слабадана Мілошавіча. Пасля таго, як Лукашэнка скрытыкаваў спробы Захаду дапамагчы ў справе назірання за галасаваннем на прэзідэнцкіх выбарах 9 верасня, ён распавёў пра магчымы страшэнны сцэнар.

Вынікі гэтых назіранняў, сказаў Лукашэнка, будуць перададзеныя на ўсе каналы, і перамогу нібыта атрымае нейкі «беларускі Каштуніца» – спадар Лукашэнка зрабіў паралель з кандыдатам ад апазіцыі, які летась перамог на выбарах у Югаславіі дзякуючы пратэстным настроям. На наступны дзень, – працягваў ён, – будзе абвешчаная перамога Лукашэнкі, аднак нязгодныя, дзесяць тысяч чалавек, збяруцца ля прэзідэнцкага палаца і нападуць на яго.

Калі спадар Лукашэнка жадае пазбегнуць лёсу Мілошавіча, ён павінен не капіяваць ягоныя паводзіны», – адзначае *The Wall Street Journal.*

Спадар Лукашэнка, які абараняе «таварыша Сталіна» ў расейскамоўнай прэсе і калісьці спрабаваў выклікаць сімпатыі нямецкага журналіста, выказаўшы захапленне Адольфам Гітлерам, мала чым адрозніваецца ад колішняга кіраўніка Югаславіі, — піша *The Wall Street Journal.*— Абодва абвінавачваюцца ў падтасоўцы выбараў і падаўленні мірных маніфестацыяў. Падобна Мілошавічу, Лукашэнка падазраецца ў стварэнні патаемнага адмысловага падраздзялення з мэтай ліквідацыі апазіцыйных фігураў – гэтае абвінавачанне Дзяржаўны дэпартамент ЗША назваў вартым даверу. Абодва кіраўнікі правялі парламенцкія выбары, якія не былі прызнаныя легітымнымі дзяржавамі Еўрапейскага Саюза і Злучанымі Штатамі. І абодва паранаідальна шукаюць ворагаў. Нядаўна ў Беларусі нямецкі бізнесовец Крыстафер Лец быў асуджаны на сем гадоў за «шпіянаж».

«Лукашэнка запазычвае ў Мілошавіча не асобныя старонкі, але «поўны збор твораў», – іранічна адзначае *The Wall Street Journal* і спасылаецца на словы Івана Ціцянкова, якога называе «президентским кошельком», адносна таго, што Лукашэнка мае на замежных рахунках значна больш грошай, чым увесь бюджэт Беларусі. Ціцянкоў не назваў дакладную лічбу, але паведаміў, што грошы былі здабытыя праз продаж зброі савецкіх часоў Іраку. «Лукашэнка ўладу проста не аддасць», – цытуе *The Wall Street Journal* словы Івана Ціцянкова.

Газета падрабязна распавядае пра маладзёжныя акцыі пратэсту ў Беларусі, адзначаючы, што яны шмат у чым змадэляваныя з югаслаўскага прыкладу. Напрыклад, рух «ЗУБР», адзін са шматлікіх маладзёжных рухаў, падобны на югаслаўскі пратэстны рух «*Otpor*». «Калі некалькі сотняў членаў гэтага руху сабраліся ў Мінску, каб адсвяткаваць гадавіну абвяшчэння суверэнітэту Беларусі, яны сустрэлі ачапленне паліцыянтаў у цывільным, – піша *The Wall Street Journal.* — Моладзь трымала партрэты зніклых асобаў і скандавала – «Дзе гэтыя людзі?». Паліцыянты пачалі штурхаць і біць дэманстрантаў. Хутка прыбылі і апранутыя ў форму паліцыянты, якія арыштавалі, праводле дадзеных арганізацыі Хартыя'97, каля дваццаці чалавек. Праз некалькі гадзінаў яны былі вызваленыя. Верагодна, іх віна – у святкаванні Дня незалежнасці, які Лукашэнка скасаваў».

*The Wall Street Journal* паведамляе і пра прэзідэнцкі дэкрэт нумар восем, які называе «ганебным». Ён мае на мэце абмежаваць заходнюю дапамогу дэмакратычным апазіцыйным арганізацыям. Дэкрэт быў прыняты ў мінулым месяцы, і паліцыя канфіскавала камп'ютэры, якія ЗША передалі ў часовае карыстанне незалежным газетам і апазіцыйным партыям. «Гэты дэкрэт асуджаецца міжнароднай супольнасцю, як і шмат якія іншыя дзеянні рэжыму, якія перашкаджаюць правядзенню вольных і справядлівых выбараў», – цытуе *The Wall Street Journal* словы прадстаўніка дзярждэпартамента ЗША Рычарда Баўчара і нагадвае, што амерыканскі ўрад запатрабаваў неадкладнага вяртання абсталявання.

«Маладыя апазіцыянеры настойлівыя, нягледзячы на выключэнне з інстытутаў і звальненне з працы»,– піша *The Wall Street Journal.* «Тым часам, невялікія апазіцыйныя партыі аб'ядналіся вакол адзінага кандыдата, што таксама нагадвае югаслаўскі вопыт. Мы, аднак, не ведаем, ці адбудзецца ў Беларусі тое, што адбылося ў Югаславіі. Але адно зразумела: без знешняй падтрымкі смелым маладым людзям наўрад ці ўдасца скарыстаць шанец», – піша *The Wall Street Journal.*

# За чатыры тыдні да прэзідэнцкіх выбараў Лукашэнка падазраецца ў забойствах

«Беларускія ўцекачы абвінавачваюць прэзідэнта Лукашэнку ў арганізацыі выкраданняў і забойстваў апанентаў рэжыму» — артыкул з такім назовам быў апублікаваны ў нямецкай газеце *Frankfurter Rundschau.*

Журналіст Штэфан Кох піша: «На беларускае кіраўніцтва падае жахлівае падазрэнне: за чатыры тыдні да прэзідэнцкіх выбараў яно абвінавачваецца ў арганізацыі знікненняў апазіцыянераў. Гэтыя абвінавачванні не толькі зыходзяць з самой Беларусі, яны былі сур'ёзна ўспрынятыя і ў Злучаных Штатах Амерыкі».

«Чуткі пра гэта хадзілі не адзін год. Аднак раней таго, хто сцвярджаў, што ў Мінску існуе група, якая па загадзе зверху знішчае людзей, маглі назваць апазіцыйным бунтаром. Зараз, у разгар прэзідэнцкай кампаніі, нават урад ЗША разглядае гэтыя падазрэнні як цалкам праўдзівыя: прэс-сакратар Дзярждэпартамента Чарльз Гантэр заявіў у Вашынгтоне, што існуюць «падрабязныя сведчанні» аб забойствах людзей у Беларусі. Так званы эскадрон смерці ў апошнія гады мэтанакіравана выкрадаў і забіваў актыўных дзеячаў апазіцыі. Гэтая інфармацыя ад двух беларускіх уцекачоў, якія атрымалі палітычнае сховішча ў Злучаных Штатах.

Зміцер Петрушкевіч і Алег Случак у якасці супрацоўнікаў дзяржаўнай пракуратуры расследавалі справу аб знікненні тэлеаператара Зміцера Завадскага, які знік у ліпені 2000 года. Пасля таго, як адзін следчы па гэтай справе нечакана памёр, а адзін сведка нібы быў забіты, яны вырашылі бегчы. «Гэта было адзінае правільнае рашэнне, і мы вельмі сур'ёзна адносімся да іхніх сведчанняў», — заявіў прадстаўнік Дзярждэпартамента Гантэр.

«Незалежна ад якіх-небудзь падазрэнняў, — піша далей газета, — ёсць неаспрэчныя факты – Віктар Ганчар, Генадзь Карпенка, Юры Захаранка былі аднымі з самых уплывовых палітыкаў, якія не хавалі сваіх крытычных адносінаў да Лукашэнкі. І яны зніклі, як Завадскі, ці памерлі пры нявысветленых абставінах, як Карпенка.

Па сведчанні ўцекачоў, гэтыя людзі сталі ахвярамі спецыяльнай групы, на рахунку якой – некалькі дзесяткаў забойстваў. Чатыры гады таму Лукашэнка даў загад шэфу Савета Бяспекі Віктару Шэйману стварыць спецатрад, задача якога – арганізоўваць знікненні палітычных апанентаў, не пакідаючы за сабой ніякіх слядоў.

Праўда, як адзначаюць заходнія назіральнікі, пры апошняй «аперацыі» ў эскадрона смерці выйшла памылка – знікнуць павінен быў быць не аператар, а журналіст расійскага тэлеканала ОРТ, з якім Завадскі павінен быў сустрэцца ў аэрапорце Мінск-2. І вось зараз следства зацягваецца да бясконцасці, генпракурор хаваецца за мяжою. Сведчанні аб эскадроне смерці абапіраюцца не толькі на сведчанні сведкаў, але і на дакументы, перададзеныя грамадскасці кіраўніком беларускіх прафсаюзаў і прэтэндэнтам на прэзідэнцкі пост Уладзімірам Ганчарыкам. Гэтыя дакументы былі перададзеныя 61-гадоваму Ганчарыку ананімна. Верагодна, супрацоўнікі рэжыму палічылі, што выказаць публічна абвінавачванні ў адрас рэжыму без рызыкі можа толькі вядомы ўсёй краіне апанент аўтарытарнага рэжыму.

Жыхары Мінска таксама патрабуюць ад уладаў тлумачэнняў: школьнікі і студэнты ўжо які тыдзень вывешваюць на гарадскіх сценах партрэты зніклых. Нават калі людзі знікаюць імгненна, памяць пра іх застаецца надоўга».

# Аўтарытарны лідэр пазбаўляецца канкурэнтаў

На гэтым тыдні сп.Лукашэнка заявіў, што 90% насельніцтва нібы прагаласуе за яго 9 верасня. Наўрад ці яму спатрэбіцца такі непраўдападобны вынік. Праз сем гадоў ягонага прыходу і змены Канстытуцыі ў 1996 годзе, якая дазволіла яму засяродзіць уладу ў сваіх руках, ён, верагодна, можа мець любы вынік, які толькі ні пажадае. Адклаўшы ўбок галечу, цёмны бок кіравання Лукашэнкі ўтрымлівае магутны і жорсткі апарат, які выкарыстоўваецца для ўціску іншадумства. На працягу апошніх некалькіх тыдняў уцечка дакументаў і паказанні перабежчыкаў сведчылі аб існаванні дзяржаўнага «эскадрона смерці», першапачаткова створанага для расправы над лідэрамі злачынных груповак, а пасля і над незадаволенымі рэжымам.

Лукашэнка не быў проста замешаны ў скандале. Аднак ён запярэчыў стварэнню незалежнай камісіі і патрабаванням часова адхіліць ад пасады падазроных чыноўнікаў.

Гэтыя заявы часткова засноўваюцца на дакументах, ананімна атрыманых Уладзімірам Ганчарыкам — лідэрам незалежнай федэрацыі прафсаюзаў краіны. Менавіта ён агучыў інфармацыю.

Ганчарык адзін з нямногіх у краіне моцных крытыкаў рэжыму. За ягонай спіною збіраюцца сілы, якія разлічваюць перамагчы Лукашэнку на выбарах наступнага года. За «адзінай кандыдатурай» Ганчарыка стаяць як мінімум яшчэ пяцёра кандыдатаў.

Ганчарык сказаў, што ён павялічыў меры засцярогі, але за сваё жыццё не хвалюецца. «Я не думаю, што гэта ў інтарэсах Лукашэнкі. Калі што-небудзь здарыцца са мною або маёй сям'ёй», – сказаў ён у інтэрв'ю. Занадта шмат людзей, сказаў ён, абвінавацяць канкрэтна прэзідэнта ў любым такім нападзе.

Па словах Ганчарыка, каля 30% выбаршчыкаў падтрымліваюць Лукашэнку. Іншыя 30% цвёрда будуць галасаваць супраць Лукашэнкі. Астатнія не вырашылі.

Ён думае, што гэта дае яму шанец на перамогу, аднак толькі калі кааліцыя за ім будзе трымацца разам, і калі ён будзе мець магчымасць выказвацца. Ён спадзяецца на з'яўленні хоць на польскіх і расейскіх тэлеканалах, якія карыстаюцца папулярнасцю ў Беларусі, бо незалежныя газеты падвяргаюцца разнастайным ганенням, а таксама на інфармацыю для простых людзей праз прафсаюзы.

У гэтым месяцы Ганчарык пераадолеў вялікую бюракратычную перашкоду і здаў 100.000 пацверджаных подпісаў выбарчай камісіі ў падтрымку свайго вылучэння кандыдатам. З 22-х мяркуемых кандыдатаў толькі чатыры дасягнулі таго самага.

Калі казаць пра палітыку, то платформа Ганчарыка дастаткова простая. Ён не абяцае радыкальных эканамічных рэформаў або карэнных зменаў у знешняй палітыцы. Ён сацыял-дэмакрат, кажа ён сам пра сябе. Ён за змешаную эканоміку і дзяржаўную падтрымку людзей. Ён хоча, каб Беларусь была больш блізкай да Еўрасаюза, але ён таксама хоча і блізкіх сувязяў з Расіяй.

Галоўнае, кажа ён, што ён хоча пазбавіцца ад страху і агрэсіі, якія, на ягоную думку, з'яўляюцца асноваю праўлення Лукашэнкі. «Лукашэнка стварыў сітуацыю, калі ўсе людзі вакол яго – ворагі», – кажа ён. «Усе баяцца. Баяцца бізнесоўцы. Баяцца міністры». Ягоная мэта, кажа Ганчарык, «не проста змяніць Лукашэнку, а памяняць сістэму ўлады ў краіне. Калі гэтага не зрабіць, то з'явіцца новы Лукашэнка».

**The Financial Times**

# Лукашенко и труженики села

Все помнят или, по крайней мере, хоть однажды видели кадры знаменитой кинохроники: съезд ВКП(б). На трибуне — Отец и Учитель. «Товарищ Сталин, — медленно говорит он о себе в третьем лице, — выполнит свой долг перед крестьянством (бурные аплодисменты), перед рабочим классом (бурные продолжительные аплодисменты), перед народом (бурные продолжительные аплодисменты, все встают), перед интеллигенцией».

И все. И никакой предвыборной кампании не надо. В действенность этого приема поверил Александр Лукашенко, который заявил, будто бы государство в текущем году полностью выполнило свои обязательства перед тружениками сельского хозяйства. Аплодисменты Лукашенко не нужны. Ему нужны труженики сельского хозяйства и, прежде всего, их голоса на предстоящих президентских выборах. И сегодня Александр Григорьевич подробно отрапортовал о том, что государство сделало для своих тружеников: в 2001 году только из средств республиканского бюджета АПК Беларуси крестьянским хозяйствам выделено около 50 миллиардов белорусских рублей, и почти такая же сумма из местных бюджетов. Кроме того, по словам главы государства, в текущем году впервые для нужд села была закуплена тысяча зерноуборочных комбайнов и другая сельскохозяйственная техника на 30 млрд. белорусских рублей.

И теперь, потрясенные всем масштабом заботы о себе, крестьяне Беларуси должны будут понять только одну очень простую вещь: надо голосовать за Лукашенко, иначе ни сельхозтехники на 30 млрд. белорусских рублей, ни средств из государственного и местного бюджетов, ни сыра, ни масла, ни молока с хлебом, ни овса, ни проса, — ничего этого больше не будет. Вы этого хотите, дорогие товарищи?

**«Газета СНГ»**

# Хоць гаршком назаві?..

Каб зразумець, якое становішча ў транспарнай галіне краіны, варта спытаць любога шэраговага працаўніка аўтапарка ці дэпо. Шафёр або слесар, мяжуючы словы з матам, распавядзе, што значыць пастаянны недахоп матэрыялаў, запчастак, дабітасць аўтобусаў, заробак, які выдаюць часткамі і працэнтамі. Можна таксама паглядзець, як часта загараюцца ў Мінску трамваі, які смурод стаіць у гарадскіх ікарусах. Урэшце, праехаць у грамадскім транспарце.

Цікава, як рашаюць праблемы пасажыраперавозчыкаў.

Доўгі час у «транспартных колах» хадзіла чутка пра рэформу падпарадкавання транспарту. Бо сістэма была занадта грувасткая: падраздзяленні аб'яднаныя ў сем паркаў, пяць тралейбусных і трамвайнае дэпо. Аўтобуснікі падпарадкоўваліся МГП «Мінскпасажыраўтатранс», сюды ж уваходзілі аўтавакзалы і аўтастанцыі. Электратранспарт курыраваўся ВА «Мінскгарэлектратранс». Асобнае ведамства – метро. І над усёй пірамідай стаяла ВУТіС – Вытворчае ўпраўленне транспарту і сувязі.

Для спрашчэння зносінаў паміж «верхнімі» і «ніжнімі» структурамі планавалася зрабіць простае падначаленне ад ВУТіСа да дэпо і паркаў. Скарачэнне апарату павінна было сэканоміць немалыя сродкі, на якія можна было б набываць новыя транспартныя адзінкі, развіваць новыя лініі. Але... Так хіба зрабілі б у якой другой краіне. Усё значна прасцей: структуры пасажыраперавозчыкаў проста... змянілі назвы. Цяпер пэўна ўсё зменіцца да лепшага. ВУТіС зрабіўся Камунальным унітарным прадпрыемствам «Упраўленне транспарту і сувязі Мінгарвыканкама», аўтобуснае кіраўніцтва – Транспартнае камунальнае унітарнае прадпрыемства «Мінскпасажыраўтатранс», метро – УП «Мінскі Метрапалітэн», электратранспарт апякае УП «Мінскгарэлектратранс».

Што змянілася? Канешне, толькі назва. Затое колькі грошай і сілаў патрачана на перарэгістрацыі, новыя пячаткі, бланкі, таблічкі і г.д. Напэўна, у сувязі з новым статусам, у новаяўленым УП «Упраўленне транспарту і сувязі Мінгарвыканкама» (скарачаць больш двух словаў нельга!) ідзе рамонт вестыбюля, не бедаваўшага і раней. Будынак, які пакінулі ўпраўленню камуністы, дзе ёсць нават патаемныя падвальныя залы, кафэ і іншае, адштукоўваецца яшчэ лепей. У той час у электратранспартнікаў цякуць дахі ў вытворчых памяшканнях...

**Арыя ГАТАЛЬСКАЯ**




ЭКСТРАДЫЦЫЯ

# Леонид Волк — не в Беларусь, а в Израиль

Заканчивается затянувшийся на полгода визит Леонида Волка в Польше. Напомним, что в начале февраля этого года польская полиция задержала прилетевшего в Варшаву Волка, одного из крупнейших белорусских бизнесменов «первой волны», большая часть которых вынуждена была в 97-98 году выехать из Беларуси от режима Лукашенко. Однако белорусские власти не оставили бывшего владельца компании «Митенком» (занимавшейся деревообработкой, строительством, инвестированием в инновационные проекты, а также обработкой драгоценных и полудрагоценных камней и золотодобычей) в покое. Сыграло свою роль в этой запоздалой мести белорусского режима (иначе это трудно назвать) и то, что в свое время Волк отказался профинансировать президентскую кампанию Лукашенко, а позднее «дотировать» внебюджетный фонд и счета белорусского президента, финансиуя при этом белорусскую оппозицию и независимое искусство. Итак, через несколько лет после выезда Волка из Беларуси и даже после того, как он получил гражданство Израиля, белорусская прокуратура выслала за ним через Интерпол «гончий лист». На основании этого листа он и был задержан в Польше, где однако существует принятая в демократических странах процедура экстрадиции, а именно: польский суд вначале рассматривает обстоятельства дела, с учетом условий в судопроизводстве страны, которая требует экстрадиции.

НАША СВАБОДА уже сообщала об очередных этапах дела Волка в Польше, однако вкратце напомним нашим читателям эту историю. После нескольких месяцев, проведенных в следственном изоляторе, Волк был отпущен польским судом на свободу под залог и поручительство известной правозащитницы Халины Бортновской. Однако он не мог покинуть эту страну. Тем временем польский суд обратился к белорусской стороне за разъяснениями: является ли Волк белорусским гражданином, поскольку в светле белорусского законодательства лицо, получившее гражданство другой страны, автоматически лишается белорусского гражданства. Однако юридически обоснованный ответ на сей запрос так и не поступил, что, как можно предположить, должно было весьма оскорбить польский суд. Много неясностей вызывало и представленное белорусской прокуратурой обвинение, тем более, что вместо собственно следственных материалов польская прокуратура получила только заверения белорусского генерального прокурора о том, что Волк преступник.

Итак, польскому суду предстояло беспристрастно «взвесить» на чашах своих символических весов, с одной стороны, полученные от белорусской прокуратуры маловнятные бумажки, а с другой — письма белорусской оппозиции в поддержку Леонида Волка, мнение белорусской независимой прессы и экспертов польских и международных правозащитных организаций о ситуации в Беларуси. Адвокат Волка представил суду рапорт известной международной организации *Amnesty International*, в котором однозначно утверждается, что в Беларуси нет независимого судопроизводства, поскольку судей назначает и отзывает президент, а адвокаты должны пройти верификацию министра юстиции.

Окончательное решение суда по делу Волка было следующим: экстрадиция в Беларусь противоречит польскому праву, поскольку у обвиняемого не было бы гарантий на справедливый процесс там. А, как сказал в заключение судья Марек Собкович, никакая экстрадиция не может быть осуществлена с нарушением прав человека.

Итак, очередное громкое дело об экстрадиции белорусского бизнесмена закончилось поражением белорусского режима. Напомним, что польский суд отказал в выдаче Беларуси Александра Пупейко, Валерия Кругового и Андрея Жуковца. А нынешний приговор и его обоснование имеют значение не только лично для Леонида Волка, но и для возможных аналогичных дел в будущем. Если ситуация и право в Беларуси не изменятся кардинально, а репутация белорусских властей останется прежней (а можно однозначно утверждать, что если Лукашенко фальсифицирует результаты выборов и останется у власти, то эта репутация еще ухудшится), то и демократические государства и их судебные органы будут видеть в нашей стране диктатуру, где о соблюдении прав человека нет и речи.

**Людмила ГУЛЯКЕВИЧ**

# «Зеленые» Беларуси требуют

*Белорусское общественное социально-экологическое объединение «Зеленый мир» (что в переводе на английский звучит как Гринпис) подготовило проект требований к кандидатам в президенты Республики Беларусь. Главная цель этого проекта — привлечь внимание к ключевым экологическим проблемам и остановить вымирание нации.*

Ни для кого не секрет, что каждый год численность населения Беларуси уменьшается примерно на сорок тысяч человек, что соответствует населению такого города, как Рогачев. Такое происходило только во время войн. В августе 2000 года, накануне вступления человечества в новое тысячелетие, мы «отпраздновали» переход численности населения через десятимиллионный рубеж в обратном направлении. Увеличение смертности, уменьшение рождаемости и, как следствие, старение нации приводят к вымиранию нации. Этому способствуют некоторые факторы, на которые и стремятся обратить внимание «Зеленые».

Беларусь по среднему уровню продолжительности жизни находится далеко позади большинства развитых стран, и это притом, что имеет все необходимые природные и иные ресурсы для достижения мировых стандартов уровня жизни населения.

Возможность изменения социально-экологической ситуации «Зеленые» видят в необходимости сделать первые шаги, которые изложены в проекте наших требований. Это может и должен сделать глава государства, поставив перед собою такую цель. «Зеленые» считают, что кандидат в президенты Республики Беларусь обязан включить эти требования в свою программу деятельности, а после своего избрания на высший государственный пост выполнить предложенную программу-минимум в первый же год своего президентства. Только тот претендент на пост президента Беларуси, который заявит о согласии с нашими требованиями и даст обещание их выполнить, может рассчитывать на поддержку «Зеленых».

Мы считаем, что дальше так жить нельзя.

Проект требований включает 5 «Нет».

**1. Нет** проживанию людей в зараженных радиацией зонах, а тем более принудительному направлению в эту зону молодых людей, специалистов. Действовать должны только экономические стимулы.

**2. Нет** планам строительства в Беларуси атомных станций, возврата на ее территорию ядерного оружия, а также размещения любого другого оружия массового поражения.

**3. Нет** строительству через Беларусь новых транзитных газо- и нефтепроводов, автомобильных магистралей до тех пор, пока не будет проведена независимая экспертиза уже существующих и дано заключение о соответствии их мировому уровню экологической безопасности, обеспечен их своевременный ремонт и содержание.

**4. Нет** транзитным перевозкам через Беларусь в Россию ядерных радиоактивных отходов, что становится реальным в связи с принятием Госдумой России Закона о переработке и утилизации радиоактивных отходов.

**5. Нет** бесконтрольной и бесполезной трате финансовых и материальных ресурсов на проведение различных празднеств и увеселительных мероприятий на государственном уровне. Такие мероприятия лишь усугубляют проблему пьянства и алкоголизма в стране. В то время как большая часть народа живет ниже уровня бедности, а нация вымирает, проведение подобных мероприятий является не только циничным и аморальным, но и преступным. По нашему мнению, это пир во время чумы. «Зеленые» требуют все народные средства, а также средства, выделяемые другими государствами и международными организациями, направлять под контролем общественности на конкретные проекты, обеспечивающие улучшение жизни населения, полноценное и разнообразное питание, оздоровление окружающей среды, здравоохранение.

# Жывем нядрэнна

## (у сьвятле неабвержных фактаў)

*Посьпехі, каторых дасягнула нацыя, настолькі бясспрэчныя, што іх ніхто ужо нават і не спрабуе хаваць. Спробы падмяніць радасьць будаўнікоў рынкавага сацыялізму хлусьлівай палітычнай мітусьнёй выглядаюць цалкам недарэчнымі. Але недабразычліўцы ніяк не супакояцца. Нястомна плятуць яны змову за змовай. Сядзяць каменем ужо ці не ў самай, ратуй Божа, Адміністрацыі.*

У той бок і пальцамі пароць ня будзем, быццам гэныя, што яму раілі лепшых ягоных памочнікаў закатаць у вязьніцу. Было б за што, то ён не чакаўшы пазьбіваў бы рогі. І памінай як звалі. Хіба ж без памочнікаў такое жыццё, як сёньня, людзям зробіш?

Возьмем, напрыклад, дабрабыт. Каторыя справядлівыя і верацъ яму, тыя кажуць – значна лепей стала жыць. Каторыя ня любяць яго за тое, што ён памагаў Гарбачову, каб не разваліць Савецкі Саюз, – тыя лямантуюць бясконца, як ім дрэнна жывецца. Праз тое ім амэрыканцы даюць незьлічоныя грошы. Ён казаў васемьсот ажно мільёнаў даляраў. А іх жа жменька, тых ашуканцаў. Нармальны чалавек каб такія грошы атрымаў, то адразу даў бы дзёру адсюль. Не, сядзяць. Мабыць, ім мала. Дачакаюцца доўбні.

Між тым лёгка абысьціся палюдзку, бяз гвалту і дарэмных спрэчак. Ёсць цудоўны індзікатар – рэальныя, што да разьмеркаваньня, грашовыя прыбыткі насельніцтва (*real disposable money income of population* – можна не чытаць, гэта я ўнука папрасіў дзеля апазіцыянэраў перакласці, калі яны па-тутэйшаму забыліся). Выглядае сабе нічога.




Ня варта шугацца, маўляў, меней як было калісьці. Кожны сьвядомы беларус, апрэч грашовых прыбыткаў, мае бульбу, гарод, сад, а ягоныя родзічы – куры, сьвіньні, каровы, козы. То бок як жылі сабе, так і жывем.

Ды гэта што, навуковы па зьмесце і нацыянальны па форме падыход да статыстыкі дэманструе нам новыя даляглядыі айчыннага прагрэсу. Зяпы безадказных алармістаў павінны захлыснуцца хутчэй за пастку. Дастаткова зьвярнуць увагу на асаблівасьці таваразвароту ў краіне.




На набыцьцё спажывецкіх тавараў, у тым ліку шніцаляў і чорнай ікры, ва ўстановах грамадскага харчаваньня, сярэдні беларус, нават зусім яшчэ немаўлятка альбо стары дзядок, таксама з адным зубам, (увага!) выдаткуе не меней за палову сярэднямесячнай заработнай платы.

Калі ўлічыць, што сярэдняя наша сям'я складаецца з трох чалавек, што на рахунках у банках і пад бялізнай у шуфлядах схавана не менш за пару мільярдаў даляраў, то робіцца відавочнай руплівасць народа-партызана.

Палавіну сваіх прыбыткаў і іхныя крыніцы шчыры беларус нікому не паказвае і не збіраецца паказваць ні пры якіх палітычных зьменах. Мяркуйце самі. Дзетак мы вельмі любім, і яны у нас, покуль малыя, не працуюць. Старэнькіх мы паважаем і рэгулярна даем ім пенсію ў памеры прыкладна 2/5 ад адпаведнай часу сярэдняй заработнай платы. Лайдакоў ля кожнай піўнухі – ня злічыць. Да таго ж вертыкальшчыкі, гарызантальшчыкі, дыяганальшчыкі, дзецюкі з гумовымі дручкамі, блудлівыя дзеўкі, парцейныя і грамадскія дзеячы, тэлевізійныя каментатары... Ой, ліха.

І што, кажу, і яны няхай будуць. Няхай жывуць. Яны ж свае, беларусы. Падзелімся ўсякай магулінкай. На тое і жыццё, каб у ім усё было. Ну, але каб не занадта.

Калі б начальству не спрабаваць народ на свой лад навесці, пакінуць яго ў спакоі, дазволіць жыць уласным жыццём, то на халеру, панове, тая палітыка. І без яе ўсіх пракорміць наш просты працоўны чалавек.

**Сямён ГРЫЦКЕВІЧ**



Фота IREX/ProMedia

# Лепей нідзе не бывае...

У Магілеўскім аблвыканкаме створаны штаб па падрыхтоўцы й надрукаваньні ў абласных дзяржаўных сродках масавай інфармацыі матэрыялаў пазытыўнага характару. Распрацаваны плян, у адпаведнасьці зь якім радыё, тэлебачаньне й газэты павінны напярэдадні й на працягу выбарчай кампаніі выпусьціць у сьвет матэрыялы пра ўсё лепшае, чаго ўдалося дасягнуць на працягу сямі гадоў кіраваньня Аляксандра Лукашэнкі.

Паводле ідэі стваральнікаў гэтае адмысловае структуры, хваля пазытыўнае інфармацыі павінна, гэтак мовіць, накрыць Магілеўскую вобласьць. Цяпер журналісты дзяржаўных выданьняў езьдзяць па сельскіх раёнах з дакладнымі заданьнямі — вышукваць пазытыўнае й тэрмінова пра яго пісаць. Згодна з плянам, зь дзясятага жніўня да семнаццатага верасьня ў эфіры абласнога дзяржаўнага радыё, якое называецца «Новае радыё Магілеў», павінны прагучаць матэрыялы, прымеркаваныя да гэтак званых дзён раёну — адпаведна са складзенымі й зацьверджанымі графікамі.

Пятнаццаціхвілінныя інтэрвію з кіраўнікамі раённых вэртыкаляў мусяць гучаць у вячэрнім эфіры і па праводнай сетцы вяшчаньня, і на ультракароткіх хвалях. На ультракароткіх хвалях павінныя гучаць таксама й адмысловыя праграмы, што маюць заняць пятры інфармацыйна-пазнавальныя гадзіны, складзеныя з трох, зразумела, пазытыўных блёкаў: эканамічнага, сацыяльнага й культурнага. Першы эфір, дарэчы, прысьвечаны гораду Бабруйску, прайшоў дзясятага жніўня.

Кожны чацьвер у сямнаццаць гадзін выходзяць аптымістычныя праграмы й у мясцовым тэлевізійным эфіры. Тэлеканал Магілеў-1 прапануе 15-хвілінны наўпросты эфір, прысьвечаны кожнаму сельскаму раёну — адпаведна з графікам, а таксама паказвае відэафільм, які ўключае 10-хвілінныя інтэрвію са старшынямі райвыканкамаў і трыццаціхвілінны расповяд пра жыцьцё раёнаў — з дэманстрацыяй лепшых здабыткаў.

На гэтую дзейнасьць, паводле некаторай інфармацыі, паміж Магілеўскім аблвыканкамам і абласным тэлерадыёаб'яднаньнем заключана адпаведная дамова, але работа журналістаў у дадзеным выпадку не аплачваецца. Размова вядзецца толькі пра тэхнічнае садзеяньне мясцовых уладаў пры падрыхтоўцы матэрыялаў. У межах дзейнасьці штабу падрыхтаваны таксама графік выступленьняў у мясцовых сродках масавай інфармацыі прадстаўнікоў структурных падраздзяленьняў Магілеўскага аблвыканкаму з расповядамі пра сваю дзейнасьць.

**Ганна ЮРЧАНКОВА, Радыё «Рацыя»**

# Канцэртавая агітацыя за выбары

Прэзентацыя зборніка «Беларускі *Turbo-mixer*» (стваранага *БМАgroup*), што адбылася ў парку Чалюскінцаў 9 жніўня ў рамках мабілізацыйнай кампаніі, прайшла на дзіва плённа, нягледзячы на забарону міліцыянтаў распаўсюджваць на канцэрце агітацыйны матэрыял з нагоды верасьнёўскіх выбараў будучага прэзідэнта. Шкада, што міліцыя не ведае закона, паводле якога роўна за месяц да выбараў агітацыя за кандыдатаў дазволеная. Актыўна падтрымала кампанію «Выбірай!» наша моладзь, якая наведалася на вечарыну нават у дождж колькасцю болей за тысячу чалавек, з задавальненнем прымаючы матэрыял як ад прадстаўнікоў руху негвалтоўнага супраціву «Зубр», так і кааліцыі «Пераменаў».

У рамках канцэрта Маладая грамада праводзіла выбары лепшай каманды, якой, вядома, стаў гурт *«NRM»* (першае і самае ганаровае месца). Калі б гэта былі сапраўдныя выбары, без сумнення, НРМаўцаў выбралі ў міністры. Другое месца падзялілі гурты *«Long Play»* і «Палац», трэцяе ўзяў Зміцер Вайцюшкевіч, які прэзентаваў публіцы свой сольны праект «Цацачная крама», словы для якога напісаны паэтам Леанідам Дранько-Майсюком. У якасці запрошаных гасцей напачатку выступілі «Куклы», што граюць аблегчаны *hard-core* (плынь моднай музыкі), як і *«Splanetic»*, якія граў наступным. Абяцаны *mixer* дапоўнены якаснай поп-музыкай ад *«Long Play»* і «Палац». У выкананні Вайцюшкевіча гучалі кампазіцыі з сумеснага праекта "Я нарадзіўся тут", у тым ліку песня "Сонца нам дапаможа", якая з'яўляецца неафіцыйным гімнам кампаніі «Выбірай!» і ўваходзіць у «Беларускі *Turbo-mixer*» у якасці бонус-трэка.

На працягу прэзентацыі слухачы, якім, гледзячы па натоўпу, такая ідэя была па душы, маглі напісаць свае пажаданні будучаму прэзідэнту Беларусі на спецыяльна адведзеных для гэтага плакатах.

Трэба зазначыць, што гэты канцэрт быў першым (роўна за месяц да выбараў) з шэрагу запланаваных у рамках мабілізацыйнай кампаніі. Вялікі імпэт моладзі да музыкі і будучых выбараў выклікае надзею на лепшае.

**Ірына ТОЎСЦІК**

# О евреях опять не вспомнили

*3 жніўня 2001 года ў НАШАЙ СВАБОДЗЕ быў надрукаваны матэрыял пад назвай «Праект музейнага даўгабуда?». Гаворка ішла пра праект рэканструкцыі ў Мінску кінатэатра «Беларусь», дзе мусіць размясціцца Музей сучаснага мастацтва. Аднак не ўсе згодныя з тым, якім чынам там усё запланавана зрабіць.*

В 1997 году постановлением Совета министров в столице Беларуси Минске было решено создать Государственный музей современного изобразительного искусства. Директором будущего музея был назначен очень уважаемый в республике человек – бывший ректор Белорусской академии искусств Василий Шарангович.

Прошло 4 года, и государство, переживающее серьезный экономический кризис, пока не нашло средств для воплощения своего в высшей степени благородного замысла в жизнь. А средств потребуется немало: одна только реконструкция отданного под музей здания кинотеатра «Беларусь», при которой оно должно стать в 7 раз больше, обойдется в немыслимую для сегодняшнего дня сумму. А ведь еще придется закупать экспонаты, создавать экспозиции, возводить на прилегающей площади парк скульптур. Но раз государство так решило, значит так тому и быть, и деньги рано или поздно найдены будут.

В чем же проблема, и причем здесь евреи? А все дело в том, что этот музей должен быть создан на Юбилейной площади Минска, которая в годы фашистской оккупации была центром гетто.

На состоявшемся в июне этого года очередном съезде еврейских общественных объединений и общин, еврейская общественность высказала свое отношение к вышеназванному проекту. Принято и открытое письмо к руководству страны:

«Еврейская общественность Беларуси выражает глубокую озабоченность решением создать на Юбилейной площади столицы республики музей современного искусства. Мы понимаем важность принятого решения, необходимость пропаганды культурных достижений современности, однако считаем, что в таком большом городе, как Минск, для решения этой задачи всегда можно найти и другую площадь, расширив при этом экскурсионное пространство. Юбилейная же площадь несет на себе отпечаток самых трагических страниц жизни города и самой историей предназначена для воплощения иных замыслов. Речь идет о создании на этой площади мемориала жертв нацизма.

Каждого четвертого жителя потеряла Беларусь в годы Второй мировой войны. Если же учитывать только гражданское население этой партизанской республики, то можно сказать, что погиб каждый третий: историки называют страшную цифру – 2 млн. 200 тыс.чел.



Фота Ул. ШЛАПАКА

Беларусь, находясь в географическом центре Европы, пострадала в ходе всевозможных войн больше любой другой страны. Практически ни одна война не минула наш народ, но ни одна война не была столь опустошительной, как последняя. Исторический центр города, где еще в глубокой древности «головы, как снопы, стелили», стал свидетелем страшных трагедий. Особенно зона, прилегающая к Юбилейной площади, где было еврейское гетто. На этом крохотном пятачке земли, размером меньше одного квадратного километра, было убито и замучено около 80 тысяч евреев Минска, 20 тысяч евреев близлежащих населенных пунктов и более 50 тысяч евреев Западной Европы.

Юбилейная площадь была центром гетто. Отсюда уводили людей на смерть, здесь впервые нацисты опробовали машины-душегубки, здесь происходили чудовищные по своей жестокости кровавые погромы. Юбилейная площадь стала символом бедствий мирного населения Беларуси в годы войны. И именно она более всего, на наш взгляд, достойна того, чтобы здесь был установлен мемориал памяти жертв гитлеровского геноцида мирного населения нашей республики.

Совершенно не оспаривая необходимости создания музея современного искусства, мы просим руководство республики пересмотреть свое решение, принятое без согласования с общественностью, и сохранить Юбилейную площадь для возможного установления в будущем на ней мемориала жертв нацизма».

На макете Юбилейной площади, какой она видится авторам проекта, нет не только упоминания о возможном обелиске памяти жертв нацизма, но даже не отмечен тот памятный камень, который уже на этой площади установлен.

**Я.БАСИН, вице-президент Союза белорусских еврейских общественных объединений и общин**

# Праўдзівае кіно

13 жніўня арганізатары фестывалю дакументальных фільмаў «Адзін свет» чэшскі фонд «Чалавек у нядолі» і беларускі Маладзёжны культурны цэнтр яшчэ раз паспрабуюць наладзіць іх паказ у Мінску. Спачатку меркавалася, што фестываль пройдзе з 1 жніўня ў зале Музея кіно, аднак тамтэйшая адміністрацыя за некалькі гадзінаў да адкрыцця фэсту адмовіла ў прадстаўленні памяшкання. Фільмы даваліся дэманстраваць зусім у неналежных для таго ўмовах у рэдакцыі газеты «Навінкі».

Дагэтуль фестываль «Адзін свет» ладзіўся ў шэрагу краінаў Усходняй Еўропы, але там аніякіх праблемаў з дэманстрацыяй стужак у ягоных арганізатараў не было. Чаму ж яны ўзніклі ў Беларусі? Усё да болю проста. Дастаткова паглядзець на афішу і змест фестывальнага дакументальнага кіно.

Фестываль «Адзін свет» адбываецца з 1999 года (ён ужо праходзіў у Польшчы, Чэхіі, Славакіі, Сербіі), каб праз дакументальнае кіно давесці грамадскасцям розных краінаў праблемы сучаснага свету. Тэматычны змест фестывальных фільмаў – гэта звычайна правы чалавека, прыродныя катастрофы, жахі ваенных канфліктаў, праблемы экалогіі, супраціў таталітарызму. Як даводзяць арганізатары фестывалю ў Беларусі, яго мэтай «ёсць азнаямленне беларускага гледача з найбольш істотнымі падзеямі ў Еўропе канца XX стагоддзя: крах рэжыму Мілошавіча ў Югаславіі, падзенне камуністычнага рэжыму ў Чэхаславаччыне, вайна ў Чачэніі». Апрача таго, маюцца стужкі пра тутэйшую рэчаіснасць.

Да ўвагі беларусаў прапануецца тузін дакументальных стужак, адабраных з двухсот, што дэманстраваліся ў межах фестывалю «Адзін свет» цягам 3 гадоў яго існавання. Усе фільмы дубляваныя па-беларуску.

Гэта «Багр» Аляксандра Манічa пра падзеі 5 кастрычніка 2000 года ў Бялградзе, калі людзі выйшлі на вуліцы і прымусілі Мілошавіча прызнаць сваю паразу. У прыватнасці, расповед ідзе пра Джо, які сваім бульдозерам атакаваў будынкі югаслаўскага парламента і тэлебачання. Другі фільм гэтага ж рэжысёра на фестывалі – «Косаўскія муры». Апрача таго, можна паглядзець яшчэ такія фільмы: «Таго часу» (успаміны пра Аксамітную рэвалюцыю 1989 года ў Чэхіі), «Хартыя'77» (пра стварэнне і дзейнасць гэтай суполкі), «Плач з магілы» (дакументальныя сведчанні забойства мусульманаў у Срэбраніцы ў 1995 годзе), «Руская рулетка» (пра небяспеку Ігналінскай АЭС).

Нарэшце, будуць паказаныя тры стужкі, прысвечаныя таму, што дзеіцца апошнімі гадамі ў Беларусі: «Звычайны прэзідэнт», «Страх» і «Ніхто не смее нічога пачуць».

**Кірэй МАНУЙЛА**

ПОШТА

# Адамовіч мае рацыю

За 23 ліпеня 2001 года ў НАШАЙ СВАБОДЗЕ было надрукаванае эсэ Славаміра Адамовіча «Нацыяналізм, як будучыня», а ў наступным нумары водгук на гэты матэрыял Алега Гардзіенкі «Новы маніфест нацыянальных футурыстаў».

Я не разумею, чаго спадар Гардзіенка на яго так абрынуўся. Не знайшла я ў гэтым эсэ прыкмет фашызму. Хто не пагадзіцца з такімі словамі: «Мы нацыяналісты, калі абараняем сваё дзіця ад забойцы; калі даглядаем хворага ці старога чалавека; калі абараняем свой род, радню; калі заступаемся за жанчыну ці суседа; мы нацыяналісты, калі на знявагу нашага нацыянальнага імя адказваем рашуча і з годнасцю, не пасягаючы на чужое, але абараняючы сваё». Ці вось такія радкі: «Нацыяналізм вучыць нас годнасці і самапавазе... І толькі ад нас залежыць, ці скарыстае чужынец з нашага плёну!»

Ці гэта фашызм? Фашызм, гэта калі ставяць сваю нацыю вышэй за іншыя, лічаць іншыя нацыі непаўнацэннымі, вынішчаюць іх. А што дрэннага ў тым, каб быць патрыётам сваёй радзімы, паважаць свой род, свой народ? Чаму французы могуць быць патрыётамі Францыі, ангельцы — Вялікай Брытаніі і г.д.? Чаму быць рускім нацыяналістам гэта добра, а беларускім ці ўкраінскім, ці чачэнскім, ці габрэйскім – дрэнна? І чаму сп.Гардзіенка піша ад імя беларускага народа? У нас ёсць такія «рупліўцы», як сп.Чайка і сп.Казіятка з атачэннем, якія заўсёды выступаюць ад імя ўсяго народа. А хто іх падтрымлівае? Толькі вельмі нязначная частка людзей, самая цёмная і малаадукаваная, ды яшчэ так званая «пятая калона».

А такі выраз, як «Хто не па-беларуску, той дрэнны» – гэта з арсеналу тых жа «рупліўцаў». Яшчэ яны кажуць, што калі нацыяналісты прыйдуць да ўлады, дык выселяць усіх рускіх. Усё гэта хлусня! У апазіцыі рэжыму людзі розных нацыянальнасцяў, не ўсе яны валодаюць беларускай мовай. Шматгадовая русіфікацыя і палітыка сённяшняй улады зрабілі сваю чорную справу, і ўсе нармалёвыя людзі гэта добра разумеюць.

Вяртаючыся да эсэ Адамовіча, хачу сказаць, што не бачу нічога дрэннага ў заклiку да сціплай ежы, фізічнай працы і высокай духоўнасці, у распаўсюджванні ідэі нацыяналізму як ідэі нацыянальнай свядомасці. Гэта лепей, чым быць, як пісаў Сакрат Яновіч, «стрававальным трактам» і прапагандаваць культ грошай. Спадар Славамір Адамовіч – своеасаблівая асоба, як усялякі творчы чалавек; даруем яму словы пра футурызм, элітныя клубы і г.д.; гэта, як пісаў некалі Вялікі правадыр, «дзіцячая хвароба левізны», гэта пройдзе. У галоўным ён мае рацыю.

**КАСЦЮК Інэса Уладзіславаўна, ветэран працы**

